

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 31 (13563)

27 ліпеня — 2 жніўня 1992 года

Кошт 3 рублі.

"ЯК ЖЫВЕШ, ВЁСКА?". Калгасны разлом, або Справядлівасць-92". Нататкі з Мёрскага раёна. 4

"СУМЕЖЖА". "Палессе: беларускі П'емонт ці Етвызь?". Працягваем спрэчкі. 6

"НОТНЫ АРКУШ". "Бесы на "Басовішчы". Рэпартаж з беларускага фестывалю ў Польшчы. 8—9

"КРЫМІНАЛЬНАЕ БЮРО". "Школа прыватных дэтэктываў". Урок першы: Фальшывая валюта. 13

"ГАЛАКТЫКА". "Дачка Крылатых Вандроўнікаў". Фантастычнае апавяданне. 16

## Стоп-факт

### ЗНОЎ ХЛЕБ ПА КАРТКАХ?

З першага жніўня жыхары г.Паставы, што ў Віцебскай вобласці, будуць атрымліваць хлеб толькі па картках спажыўцоў. Такое рашэнне гарадскі Савет прыняў у сувязі з тым, што гэтага жыццёвага прадукту хранічна не хапае. Праўда, і раней хлеб адпускаўся пакупнікам лімітавана, але людзей гэта не бянтэжыла, і яны проста станавіліся ў чаргу па некалькі разоў. А ў выніку — незадаволенасць тых жыхароў, якія працуюць на вытворчасці, бо, вяртаючыся ўвечары са змены, яны застаюць паліцы хлебных магазінаў пустымі... Між іншым, суседзі пастаўчан у Глыбокім і Браславе яшчэ раней увялі такі парадак продажу хлеба.

### А ТЫМ ЧАСАМ...

Жніво — у самым разгары. На 28 ліпеня збожжа ўбрана на плошчы ў 500 тысяч гектараў, што складае 1/5 частку ўсіх пасеваў. Масавая ўборка збожжавых і зернебабовых ідзе ў гаспадарках Брэсцкай, Гомельскай, Гродзенскай і Мінскай абласцей. Тут скошана гэтых культур ад 25 да 40 працэнтаў. У сярэднім па рэспубліцы ўраджай складае каля 30 цэнтнераў з гектара. Крыху вышэйшы ўраджай у Карэліцкім і Гродзенскім раёнах — больш за 35 цэнтнераў з гектара.

Сухое спякотнае надвор'е прывяло да таго, што на лёгкіх глебах пасевы, што называецца, "падгарэлі". Адсутнасць дажджоў з сярэдзіны мая адбілася на ўраджаі ў паўночных і паўночна-ўсходніх раёнах Беларусі. А ўвогуле ж збажына ўжо паспела.

### "КВАДРАТНЫЯ" ПЛЕЧЫ — ЗА "КРУГЛЫМ СТАЛОМ"

27 ліпеня Камітэтам маладзёжных арганізацый Рэспублікі Беларусь быў праведзены "круглы стол" з удзелам прадстаўнікоў моладзі Германіі, Францыі, Галандыі, ЗША і Канады. Пры ўсіх відавочных адрозненнях моладзі розных краін, нас яднае адно — мы маладыя, і ад нас залежыць заўтрашні дзень. Каб жыць у згодзе, трэба ведаць адзін аднаго. Нездарма так цікавіць нас жыццё, вопыт "замежжа". Нездарма "заграніца" так цікавіцца нашай эканамічнай, палітычнай сітуацыяй і г.д. Пад час размоваў за "круглым сталом" закраналіся праблемы ўзаемадзеяння маладзёжных арганізацый розных краін, кантактаў у галіне культурнага, эканамічнага, навуковага і вучэбнага супрацоўніцтва. А скончылася сустрэча невялікім канцэртам, падрыхтаваным аддзелам КМА.

В.КУЛІЧОЎ.

### СУСТРЭНЕМСЯ "НА РОСТАНЯХ"?

Рэстаранны комплекс "На ростанях" не працуе ўжо два гады. Комплекс гэты, як вядома, знаходзіўся ў будынку жылога дома, дзе па закону можа працаваць рэстаран не больш чым на 50 месцаў, і таму цяпер тут засталося толькі кафэ.

Астатнюю плошчу жыхары дома прапанавалі аддаць культурнай установе. Рашэннем Мінгарвыканкама тут вырашана стварыць шматфункцыянальны выставачны комплекс.

Назву яго вырашылі не мяняць. Зараз у памяшканні былога рэстарана ідзе рэканструкцыя. Акрамя выставачнай галерэі, тут размесціцца музычная тэатральная гасціная, мастацкі магазін-салон, дзе будуць прадавацца галоўным чынам тавары для творчых людзей (грым, музычныя інструменты, пэндзлі і г.д.), сістэма міні-бараў, студыя гуказапісу, прэс-служба, інфармацыйны цэнтр Міністэрства культуры. Апошні дасць магчымасць атрымліваць даведкі аб дзеячах мастацтва Беларусі і краін СНД.

Асабіста выставачны комплекс уключае ў сябе галерэю і дзве залы, дзе "выстаўляцца" зможа кожны, хто захоча.

Будынак стане клубам творчай інтэлігенцыі. У праўленне ўвойдуць прадстаўнікі ўсіх творчых саюзаў. Акрамя таго, плануецца праводзіць нават свае кінафестывалі.

Ж.ПАЦЕЕНАК.

### "НЕ ПУШЧАЦЬ"

грамадзян у свабодныя паездкі і паходы па лясах вобласці вырашыў Магілёўскі аблвыканкам. Гэта рашэнне было прынята ў сувязі з узрослай колькасцю пажараў, якіх на Магілёўшчыне зарэгістравана ўжо больш за 800. Асабліва трывожнае становішча склалася ў Асіповіцкім і Быхаўскім раёнах. Усе парушальнікі пажарнай бяспекі будуць прыцягвацца да суровай адказнасці.

### ПЕРШЫ АЛІМПІЙСКІ ЗАЛАТЫ МЕДАЛЬ АТРЫМАЎ БЕЛАРУСКУЮ ПРАПІСКУ

Калі зборная СНД ад'язджала ў Барселону на XXV Алімпійскія гульні, на яго практычна ніхто не звяртаў увагі. Падумаеш, меркавалі многія, хлопцу няма яшчэ 17 гадоў, а хоча паспрабаваць паспрачацца з грандамі... І ў якім відзе спорту — стральбе з дробнакаліберната пісталета!

А ён, юны дынамавец Канстанцін Лукашык з Гродна, меркаваў інакш. Не па гадах сталы і разважлівы, а галоўнае — стрыманы, юнак не спалохаўся і ўжо ў першы дзень Алімпіяды адчайна ўступіў у барацьбу за ўзнагароды Гульняў. Не спынілі яго ні ранейшыя рэгаліі славутага шведа Сканакера — "прэтэндэнта нумар адзін" на алімпійскае "золата", ні вопыт і высокая спартыўная загартоўка амерыканца Янга, кітайца І Фу Вана, венгра Яга і румына Бабія. Ужо ў папярэдніх спаборніцтвах Лукашык захапіў лідэрства і не ўступіў яго нікому. Канстанцін набраў 655 ачкоў, усяго на адно апярэдзіўшы І Фу Вана і Сканакера. Такім чынам, першы залаты алімпійскі медаль атрымаў беларускую прапіску.

Дык хто ж ён, алімпійскі чэмпіён Канстанцін Лукашык?

Нарадзіўся ў верасні 1975 года ў Гародні. Як і многія падлеткі, чым толькі ні захапляўся ў дзяцінстве. І даволі ўдала. У 11 гадоў Косця зняўся ў кінафільме "Белыя росы". Любіць музыку: паспяхова скончыў музычную школу, асвоіўшы, такім чынам, піяніна і скрыпку.

А чатыры гады таму Канстанцін захапіўся стральбой. Трэнер Алег Пішчуневіч здолеў пераканаць яго: гэта — назаўсёды! І, як бачым, так яно і атрымалася.

Алесь МЯСНІКОЎ.

## Ад сэрца к сэрцу

Беларускае таварыства інвалідаў па зроку і часопіс "Зрок" сумесна з Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніяй РБ у кастрычніку-лістападзе гэтага года праводзяць дабрачынныя тэлеаўкцыёны "Ад сэрца к сэрцу", сродкі ад якіх пойдуць на будаўніцтва першага ў рэспубліцы рэабілітацыйнага цэнтра для невідушчых.

На гэтую ініцыятыву адгукнуліся шматлікія прадпрыемствы Беларусі, якія вырашылі выступіць спонсарамі акцыі міласэрнасці. МІНСКІ МОТАВЕЛАЗАВОД прадаставіў у распараджэнне аргкамітэта партыю веласіпедаў на 100 тысяч рублёў. Далі згоду на ўдзел таксама МІНСКІ АЎТАЗАВОД, МІНСКІ МЕХАНІЧНЫ ЗАВОД ІМЯ ВАВІЛАВА БЕЛАРУСКАГА ОПТЫКА-МЕХАНІЧНАГА АБ'ЯДНАННЯ, МІНСКІ ФАРФОРАВЫ ЗАВОД, фірма "МІЛАВІЦА", Беларускае рэспубліканскае аб'яднанне "УТОРЧАРМЕТ", МІНСКАЕ ВЫТВОРЧАЕ ГАРБАРНАЕ АБ'ЯДНАННЕ, маладзёжны гасразліковы цэнтр "ПЕРСПЕКТЫВА", а таксама "САЮЗ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ РБ.

Варта адзначыць таксама, што ў Таварыстве інвалідаў па зроку прайшла сустрэча з суайчыннікамі з Амерыкі. Дзякуючы намаганням старшыні згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Яўгена Лецкі члены таварыства інвалідаў па зроку пазнаёміліся з жыццём беларусаў Амерыкі, якія ахвяравалі на будаўніцтва рэабілітацыйнага цэнтра 1500 даляраў.

Заяўкі на ўдзел у тэлеаўкцыёнах прымаюцца да 15 жніўня г.г.

*Адрас: 220004, г.Мінск, вул.Вызвалення, 9, тэл.26-88-88, 26-86-00.*

*Разліковы рахунак: дырэкцыя РРЦ БелТІЗ: 200609233 у гарадской дырэкцыі Мінскбізнесбанка ў г.Мінску, МФО 153001764.*

*Валютны разліковы рахунак таварыства: 069070080 001 у Знешэканомбанку г.Мінска, МФО 153001226.*



У Беларусі цяпер гасцюе вядомы беларускі пісьменнік з Канады, аўтар раманаў "Змагарныя дарогі", "Гараватка", "Учора – гэта сёння", "За волю" ды іншых кніг, Кастусь Акула.

Ён ужо меў шэраг сустрэч з беларускімі пісьменнікамі, з дзеячамі БНФ, быў у выдавецтвах, рэдакцыях, завітаў і ў рэдакцыю "Чырвонай змены", якая запрасіла вядомага эмігранцкага літаратара на радзіму.

Шмат уражанняў атрымаў спадар К.Акула ад побыту на Бацькаўшчыне (Віцебшчына), ад удзелу ў святкаванні Дня дэкларацыі незалежнасці ў Менску.

НА ЗДЫМКУ: сустрэча Кастуся Акулы ў Менскім аэрапорце.

Фота У.Панады.

## Інфа-крым

### "НАЧНОЕ РАНДЭВУ" ПА СЕРАБРАНЦЫ

Апоўначы 26 ліпеня ў Мінскім мікрараёне Серабранка некалькі непаўналетніх рабаўнікоў збілі і "абчысцілі" мінчаніна С. Літаральна праз пяць хвілін такі ж лёс напаткаў і мінчаніна І. Невядома, колькі яшчэ ахвяр сустрэлі б на начной вуліцы юныя бандыты, калі б не патрульны нарад Ленінскага РАУС, які затрымаў двух з іх — навучэнца гарадскога ПТВ № 55 Віталя Шэўчыка і дзесяцікласніка 7-й школы працоўнай моладзі Мікалая Буркоўскага.

### АДПОМСЦІЛІ НАЧАЛЬНІКУ?

25 ліпеня ваенізаваная ахова Мінскага маторнага завода затрымала 30-гадовага В. і 28-гадовага М. (рабочых гэтага ж прадпрыемства), якія выкралі прыбор праграміравання і наладкі і тэлефон з кабінета... свайго ж начальніка.

С.РАЧЫЛА.

## ГЕРОЙ НАШАГА ЧАСУ

24 ліпеня пад час вучэбна-трэніровачнага палёту над Навабеліцкім прамысловым раёнам Гомеля ў выніку ўзгарання рухавіка пры наборы вышыні пацярпеў аварыю стратэгічны бамбардзіроўшчык ТУ-22 ВПС Аб'яднаных узброеных сіл СНД. Дзякуючы ўмелым дзеянням экіпажа, самалёт быў накіраваны ў раён ляснога масіву за межамі горада. З-за недахопу вышыні для раскрыцця парашута загінуў камандзір экіпажа падпалкоўнік Віктар Оськін. Астатнія члены экіпажа падпалкоўнік Аляксандр Сцепанчакоў і штурман маёр Мікалай Іваноў шчасліва прызямліліся. Аддаўшы загад экіпажу катапультавацца, Віктар зрабіў усё магчымае, каб адвесці пагрозу ад горада. Больш дакладныя прычыны аварыі высвятляе ваенная пракуратура. Пахаванне ж героя-лётчыка адбылося 27 ліпеня ў Гомелі.

С.ВІШНЕЎСКІ.

## КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Эдуард ДУБЯНЕЦКІ, навуковы супрацоўнік гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, псіхагісторык:*

– На мой погляд, сёння, як ніколі раней, найбольш востра адчуваюцца праяўленні духоўнай дэградацыі, спустошанасці большасці людзей. Я лічу, што працэсы духоўнай самадэградацыі (або самаразбурэння) у нашы дні праходзяць вельмі хутка. І ў тым выпадку, калі ў бліжэйшы час не будуць зроблены пэўныя захады для сапраўднага выратавання душы чалавека, вынікі могуць быць самымі сумнымі, нават да выраджэння ўсёй нацыі. Мне, як даследчыку псіхолага-гістарычных праблем, уяўляецца, што амаль усе мы знаходзімся ў стане (гаворачы моваі сацыяльнай псіхалогіі) "абуліі". Гэтым тэрмінам называецца такі стан, у якім чалавек часткова ўсведамляе патрэбу ў пэўных дзеяннях, аднак, насуперак усяму, не хоча або не можа прыняць і ажыццявіць адпаведныя рашэнні, учынкі. Многія людзі ўсё ж разумеюць, што яны няўхільна коцяцца ў бездань бездухоўнасці, самадэградацыі, але нічога не могуць з сабой зрабіць. Менавіта таму нам неабходна прыкладаць усе магчымыя намаганні да самавыратавання, да таго, каб адхіліць рэальнуцю пагрозу духоўнага Чарнобыля.

*Ангеліна РУДЭНКА, намеснік дэкана факультэта журналістыкі БДУ:*

– Рускае асяроддзе паглынула беларускую мову. Не баюся гэтых слоў, хоць сама выкладаю рускую мову. Бо спрэчкі наконт "двухмоўя" на Беларусі ўсё яшчэ не сціхаюць. Але ж калі закрываць вочы на функцыяніраванне рускай мовы на Беларусі з-за таго, што тут жыве шмат рускіх, то тады лагічным было б паставіць пытанне і аб увядзенні польскай мовы ў якасці дзяржаўнай, бо на тэрыторыі рэспублікі жыве нямала палякаў. Але ні ў якім разе нельга нагнятаць напружанасць з-за гэтага пытання.

Што датычыць навучання ў вышэйшай школе, то тут магу сказаць, што сёння і выкладчыкам, і студэнтам даводзіцца працаваць у самых цяжкіх умовах практычна на адным энтузіязме. Стараемся хоць неяк падрыхтаваць студэнтаў да новых умоў жыцця...

*Леанід ШЧАМЯЛЁЎ, мастак:*

– Мяне турбуе тое, што цяперашні Саюз мастакоў Беларусі, які аб'ядноўвае майстроў выяўленчага мастацтва рэспублікі, фактычна нічым не адрозніваецца ад ідэнтычнага Саюза мастакоў СССР, бо будуецца на тых жа прынцыпах. Так, ёсць у нас цяпер камерцыйны дырэктар замест старшыні Фонду Саюза мастакоў СССР. Але вынікаў працы той структуры, якую гэты дырэктар узначальвае, ні я, ні мае калегі на сабе не адчуваюць. Зараз творчыя магчымасці мастакоў, асабліва маладых, матэрыяльна ніяк не падмацоўваюцца. Яшчэ мяне непакоіць будучыня нашага выяўленчага мастацтва, лёс выпускнікоў Беларускай акадэміі мастацтваў, сярод якіх ёсць вельмі неардынарныя асобы, са своеасаблівымі поглядамі на жыццё, гісторыю. Так, цяпер ніхто не абмяжоўвае мастакоў у выбары тэм, не навязвае, як раней, "адзіных і непарушных" поглядаў на рэчаіснасць. Але ж трэба ўладкоўваць неяк і сваё жыццё. Паспрабуй зарабі любімай справай, калі цэны на фарбы, пэндзлі і іншыя прылады ўзняліся ў дзесяткі разоў...

Часам складваецца такое ўражанне, што выяўленчае мастацтва нікому, акрамя саміх мастакоў, не патрэбна. За карыстанне майстэрнямі ўстаноўлены вялікія падаткі, Міністэрства культуры збыту карцін амаль не садзейнічае. Не баючыся памыліцца, скажу, што попыт на карціны беларускіх мастакоў за мяжой быў бы даволі высокі. Але на тое, каб арганізаваць там якія-небудзь выставы, проста не хапае сродкаў.

Багатыя людзі, асабліва тыя, хто мае нейкія беларускія карані, з ахвотай набылі б работы землякоў сваіх продкаў. Што датычыць "разбазарвання" мастацтва, якое быццам бы пры гэтым мае месца, то я лічу, што мастацтва нельга разбазарыць, бо яно ж павінна служыць усім людзям. А наяўнасць беларускіх карцін у замежных грамадзян, на маю думку, толькі падмацуе прэстыж нашай Бацькаўшчыны.

А ўвогуле ж, каб узняць выяўленчае мастацтва на высокі ўзровень, патрэбна, каб была распрацавана можа нават асобная дзяржаўная праграма, якая б прадугледжвала выхаванне эстэтычнага густу людзей, пачынаючы з дзяцінства, уключэнне ў склад урада спецыялістаў-прафесіяналаў з глыбокім веданнем дадзенай праблемы і г.д. І ў гэтай праграме ў першую чаргу павінен быць закладзены надзейны фундамент для развіцця ў будучым сапраўднага мастацтва.

*Думкі ўголас*

## "БОМЖЫ" У ПАГОНАХ...

"Чамадан. Вакзал. Расія!". Гэты лозунг у апошні час усё часцей гучыць сярод афіцэраў і прапаршчыкаў Узброеных Сіл былога Савецкага Саюза. Актыўна набірае моц працэс стварэння і камплектавання нацыянальных армій.

Што ж нясе гэты працэс для людзей у ваеннай форме? Мяркуючы па апошніх выступленнях членаў Беларускага ўрада і кіраўніцтва, нядаўна створанага Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, кожнаму ваеннаслужачаму ў выніку скарачэння і звальнення ў запас будуць забяспечаны неабходныя сацыяльныя гарантыі. Тым, хто праслужыў не менш чым 1,5 года, — дадуць пенсію, бескватэрныя, нарэшце, набудуць жаданае жыллё... Да вырашэння лёсу кожнага афіцэра абяцаюць падыходзіць цывілізавана, гуманна. Запэўненні высокіх кіраўнікоў у розных сродках масавай інфармацыі, канешне ж, прыемна песцяць слых, але асаблівага аптымізму не ўсяляюць. Чаму? Ды таму, што ў нядаўна прынятым у першым чытанні на сесіі Вярхоўнага Савета РБ пакеце ваенных дакументаў ёсць нямала спрэчных момантаў.

Да прыкладу, дзе возьмуць столькі кватэр для звальняемых у запас ваеннаслужачых?

Агульная колькасць бескватэрных ва ўпраўленні нашай часці складае амаль трыста чалавек! Скажыце, на што разлічваць іхнім сем'ям, калі ў першую чаргу будуць забяспечваць жыллём звольненых у запас па выслузе гадоў і скарачэнні? Колькі ім яшчэ трэба будзе качаваць па прыватных кутах, якія і зняць цяпер становіцца ўсё больш складана.

Многія мінскія газеты зараз стракацяць аб'явамі накшталт: "Здам 1-2-пакаёвую кватэру. (Аплата па дамоўленасці або за СКВ)". Першая каштуе 30 даляраў, а двух-, трохпакаёвая — не менш чым 50 "зялёных" у месяц. А дзе, прабачце, узяць гэтыя грошы ваеннаслужачаму? А на Беларусі ж кожны трэці ваеннаслужачы — бескватэрны... Натхняе, ці не так? Асабліва калі ўлічыць, што малодшы афіцэр у арміі толькі з лютага гэтага года пачаў атрымліваць 2-2,5 тысячы "драўляных", а кампенсацыя за наём жылля складае ўсяго 300-350 рублёў (!) у месяц у залежнасці ад складу сям'і. Значыць, астатнюю суму трэба выкладваць са сваёй кішэні. А на што ж тады ўтрымліваць сям'ю, калі яшчэ і жонка не можа ўладкавацца на працу? У параўнанні з заробкам, напрыклад, беларускіх вадзіцеляў аўтобусаў ваенныя проста жабракі... У тых хоць сямейныя інтэрнаты існуюць, ды і арганізацыі для сваіх работнікаў жыллё будуюць.

Пішу свае невясёлыя нататкі ў кабінеце, амаль да столі застаўленым хатнімі рэчамі. Два тыдні таму выгнала на вуліцу з кватэры гаспадыня. Хацеў напачатку размясціцца ў гасцініцы, але там запрасілі проста неймаверную цану за пражыванне — больш за сто рублёў у суткі за 2-мясцовы нумар. А за месяц атрымліваецца нават на тысячу даражэй, чым наём прыватнай кватэры. Таму мы з жонкай вырашылі крыху пажыць на службовай плошчы, пакуль знойдзем кут. Добра, што пяцігадовую дачку здолелі адправіць на лета да бабулі. Няхай хоць яна не пакутуе.

Так, людзі ваенныя прывыклі да цяжкасцей. Але нельга ж бясконца злоўжываць нашым цярпеннем і пастаянна ставіць у немагчымыя ўмовы. Ці нам да самай старасці наканаваны лёс "бомжаў"?

Маёр Аляксей БЕЗВЯСЕЛЬНЫ.
г.Мінск.

*Зваротная сувязь*

## БОГ — АДЗІНЫ?

У 27 нумары "Чырвонай змены" я ўважліва прачытаў артыкул М.Гаховіча "Наступ капіталізму на Усход", а таксама зварот Каардынацыйнай Рады Беларускага згуртавання вайскоўцаў.

І артыкул і зварот кранулі мяне сваёй актуальнасцю. Я беларус, праваслаўны, хрышчаны, хоць і няверуючы, жыву ў г.Гродна, дзе прыкладна 80 працэнтаў праваслаўных і 20 — католікаў, з іх большая частка акаталічаных беларусаў.

Пасля уніі Літвы і Польшчы ў канцы XVI стагоддзя пачалася польская каланізацыя беларускіх зямель. Але гэта далёкая гісторыя. Зараз у Гродна 4 касцёлы, якія дзейнічаюць, і толькі тры праваслаўныя храмы. У адным з праваслаўных храмаў XYIII стагоддзя знаходзіцца музей гісторыі і рэлігіі. Акрамя таго, у Гродна ў 1990 годзе адкрылася каталіцкая духоўная семінарыя, будуецца вялікі храм сектантаў — адвентыстаў сёмага дня. Праўда, у дакументах гарвыканкама гэты храм праходзіць пад назвай "агітпляцоўка", а з праектнай дакументацыі выняты чартяжы крыжа на даху.

Наступленне каталіцызму адбываецца не толькі ў Гродна.

Я не разумею пазіцыю беларускіх праваслаўных свяшчэннікаў па гэтай праблеме. Чаму яны так абыякава ставяцца да сваёй паствы, чаму такія пасіўныя?

З павагай,
Леанід Матусевіч.
г. Гродна.

## БЕЗ "РАЁНКІ" — НЕЛЬГА!

У "Чырвонай змене" за 22-28 чэрвеня г.г. змешчаны артыкул "Свой чалавек" ва ўрадзе", у якім у форме інтэрв'ю Паўла Сіманава з загадчыкам аддзела друку, радыё, тэлебачання пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Сяргеем Анатольевічам Паваляевым ідзе размова аб перспектывах развіцця сродкаў масавай інфармацыі ў нашай краіне.

Слушна адзначана, што большасць выданняў дзяржаўных або муніцыпальных (і ў першую чаргу — беларускамоўныя) падтрымліваць.

Але вось наконт гарадскіх газет і "раёнак", якія, паводле слоў С.Паваляева, варта замяніць куставымі, міжрэгіянальнымі і ператварыць у штотыднёвікі, я не згодны. Жыхарам правінцыяльных гарадоў і раёнаў так неабходны аператыўнасць і інфармацыя пра канкрэтныя жыццёвыя праблемы, якія поруч з намі.

Пазбавіцца магчымасці хоць праз дзень чытаць сваю "раёнку", а часам і дасылаць у яе матэрыял, значыць, вобразна кажучы, анямець і аглухнуць на тыдзень.

Іншая справа, што варта ўзмацніць іх больш прафесійнымі кадрамі, падтрымаць фінансава, пашырыць рэспандэнцкі актыў і тэматыку матэрыялаў.

Лічу, што выказваю не толькі сваю думку, бо назіраю, як цікавяцца жыхары нашага горада мясцовымі выданнямі.

К.ХАРАШЭВІЧ.
г. Маладзечна.

# VIVAT, ALBARUSSIA!




Людзі пад сцягамі... Угледзьцеся ў гэты фотаздымак! Знайдзіце тут хоць адзін твар, хоць адны вочы, у якіх не было б радасці, гонару за родную зямлю, за Беларусь, якая, урэшце, здолела скінуць з сябе ланцугі татальнай залежнасці. 27 ліпеня – свята нязвыклае. Можа таму параўнальна няшмат людзей ішлі ў гэты дзень па праспекце Скарыны да помніка Янку Купалу, каб адзначыць першае сапраўды беларускае свята.

Ля помніка Песняру адбыўся мітынг. Гаварылі аб Адраджэнні, аб волі, аб незалежнасці. І ў словах кожнага прамоўцы гучала перакананасць у тым, што праз пэўны час увесь праспект Скарыны, як і іншыя праспекты, вуліцы гарадоў Беларусі ня змогуць умясціць вольных людзей, што будуць адзначаць свята вольнай зямлі... Што свята гэта пасяліцца ў сэрцы кожнага, і не пад прымусам, а кіруючыся добрай воляй прыйдуць людзі пад бела-чырвона-белыя сцягі....

А.ПАЛЫНСКІ.

НА ЗДЫМКУ: Святочнае шэсце ў Дзень незалежнасці ў Мінску.

Фота У.ПАНАДЫ.

# КАЛГАСНЫ РАЗЛОМ,





# або СПРАВЯДЛІВАСЦЬ-92

*Беларусы падзяляюцца на тры катэгорыі: карэнных гараджан, вяскоўцаў, а таксама тых, хто пераехаў з вёскі ў горад нядаўна і яшчэ не паспеў забыцца, як пахне ўзараная зямля, як свішча пуга пастуха, як певень склікае курэй, дый проста — памятае розніцу паміж сырадоем і той белай вадзічкай, якую мы набываем у крамах... Але гэты матэрыял не для іх — не для вяскоўцаў. Яны ў большай ці меншай ступені ведаюць становішча. Не кажу пра ўсіх, але большасць гараджан у другім ці трэцім пакаленні проста не ўяўляе сабе, што робіцца зараз у калгасах і саўгасах, якія да апошняга часу былі асновай нашай сельскай гаспадаркі. Сітуацыю, якая склалася там, можна ахарактарызаваць ёмістым расейскім словам — "беспредел".*

### З размовы на вуліцы сяла

*КАЛГАСНІК, ВЕТЭРАН ПРАЦЫ (40 гадоў працоўнага стажу), цяпер пенсіянер: "Шаноўны старшыня, можа б вы прыслалі да мяне трактар, сена прывезці трэба..."*

*СТАРШЫНЯ КАЛГАСА (у два разы маладзейшы за калгасніка): "Ты вазьмі пляшку гарэлкі, ды й ідзі сам хлопцаў пашукай..."*

...Лявонпаль. Мястэчка, якіх у Заходняй Беларусі шмат. Тыя ж засеяныя "соткі", пушыстыя каты ля платоў, царква са званіцай... І — графскі палац на беразе Дзвіны, дзе цяпер касцёл, ды некалькі былых яўрэйскіх крам уздоўж цэнтральнай вуліцы (цяпер тут ніводнага яўрэя няма, а крамы — вось яны, стаяць напаўразбураныя. Мястэчка заштатнае, нават не цэнтральная сядзіба калгаса. А калгас тут носіць імя героя грамадзянскай вайны і шматлікіх анекдотаў, вядомага ўсім камдыва... Класічны прыклад Яе Вялікасці Беларускай Вёскі — маці нашай, карміцелькі...

А ці не забываем мы ў нашай пагоні за інтэлектам, за ўскладненым філасофскім сімвалам тых, хто з голаду нам памерці не дае, жыхароў гэтай самай вёскі? Яны ж не робаты па вытворчасці бульбы ды сала — людзі! Мудрыя і не вельмі, руплівыя і так сабе, працавітыя і трохі гультаяватыя, — адным словам, як і мы, гараджане, члены таго велізарнага калгаса, які калісьці называўся Савецкім Саюзам...

Усесаюзны калгас распаўся. Дзяржаўныя дзеячы гнуць лінію на развал калгасаў рэспубліканскіх. А што ж сапраўдныя калектыўныя гаспадаркі? Гэтае пытанне і прывяло мяне на Мёршчыну.

Першае, што я пачуў на гэтай зямлі, у калгасе ўсё сена кудысьці падзелася і старшыня паслаў людзей крапіву касіць. Ну, наконт крапівы можа і перабольшанне, але што калгасныя каровы сёлета застануцца на паўгалодным пайку, больш чым верагодна. Дый ці застануцца тыя каровы калгаснымі? Вось дзе пункт адліку — мяжа паміж уласным і грамадскім. Паводле звестак, якія мне ўдалося атрымаць, той калгас на Мёршчыне, аб якім ідзе размова, праіснуе хіба да восені. На маё пытанне, што ж стане з калектыўнай маёмасцю, старая калгасніца, што прыйшла ў абед на пашу даіць карову, раўнадушна адказала: ды разбяруць...

Хто ж разбярэ? У тым вось і пытанне, тут вось і разлом паміж суседнімі хатамі ў вёсцы, паміж людзьмі, якім раней і дзяліць не было чаго. Праўда, не ўсё яшчэ падзелена, не ўсё прыбрана да рук ТЫМІ, ХТО МОЖА. Хто назапасіў сена на тры гады наперад? Пенсіянеры, што пачыналі яшчэ за "палачкі" рабіць? Не, тыя, хто да тэхнікі бліжэй, хто з начальствам "на кароткай назе"... Яны і разбяруць тое, што застанецца ад калгаса. І не варта думаць, што з астатнімі падзеляцца. Хутчэй скажуць, як той старшыня: бяры пляшку ды шукай хлопцаў...

Дарэчы, наконт пляшкі і хлопцаў. За карыстанне тэхнікай на ўласных агародах у калгасную касу штогод паступаюць грошы з зарплаты ўсіх вяскоўцаў, незалежна нават ад таго, браў ты той трактар ці не. Раней было проста — выдзяляліся некалькі камбайнаў ды па чарзе ўбіралі "соткі" ўласных пасеваў. Цяпер жа без пляшкі да механізатара не падыходзь — хоць ён і сусед, але абавязкова скажа, што машына зламалася. А калі бабулька нейкая летась мала "наліла", наступным летам не дачакаецца яна дапамогі, возьме ў рукі серп, і — бывай, XX стагоддзе!

Ды што тут пра бабулек гаварыць, калі на ўласным агародзе старога чалавека, заслужанага медыка, сусед прыладзіўся будавацца! Да каго ж ісці, каму скардзіцца? Ніхто рады не дае...

Гэта толькі замалёвачкі знешніх працэсаў, што адбываюцца на вёсцы ў пераходны перыяд паміж сацыялізмам і капіталізмам. Сельская гаспадарка, зямля — гэта сур'ёзна. Гэта — вялікія мільёны, на якіх пэўны кантынгент, ой, як хоча нагрэць рукі. Але ж нажывалі калгасную маёмасць пакаленні працаўнікоў, людзей, якія зараз дажываюць свой век у пахіленых хатах, забытыя ўсімі, і ў першую чаргу калгасным кіраўніцтвам. А гэта ж усё — іхняе!

...У прыгаданым калгасе за 12 гадоў змянілася ажно пяць старшынь. Прычым кожны сабе новую хату выбудаваў. Не кажу, вядома, што ўсе яны дармаедамі былі — некаторых людзі дабром успамінаюць. Асабліва ж тых, хто ДЫСЦЫПЛІНУ трымаў... Што гэта — прага дыктатуры? Ды не, натуральнае імкненне працоўнага чалавека падпарадкоўвацца добраму арганізатару. Людзі кажуць, што раней, калі старшынь прызначалі, з гэтым было нават лепш, адчувалася хоць нейкая адказнасць. Цяпер выберуць не таго, хто можа добра кіраваць, а таго, хто заплюшчыць вочы на ляноту, абыякавасць, часам на звычайны крадзеж. Тым больш цяпер, калі калгасы паступова развальваюцца, кантроль знікае...

Калгасныя каровы да ўсяго прывычныя. Як і свінні, ды й іншая жывёла. Не тое, што свае, родныя — яны ж кармільцы, сам недаясі — ім панясеш. Няўжо, калі калгасныя каровы сваімі стануць, іх гэтак жа даглядаць будуць? Магчыма. Але зноў, тая пенсіянерка больш адной-дзвюх кароў ды пары-тройкі авечак не выгадуе. Дый сена сама не нарыхтуе. Зноў — пляшка? Ды не, цяпер па-іншаму прыйдзецца разлічвацца: уласнай працай, уласным гарбом. Зноў батрацтва? А як гэта інакш назваць? Усім фермерамі не стаць. Не ўсе здолеюць нават па стану здароўя выцягнуць такі воз. І пачнецца расслаенне на вёсцы. І, відаць, хутка ніхто не здзівіцца, калі сын-пралетарый, які прыедзе да бацькоў на вёску і ўбачыць, як яны "шчыруюць" на суседскім агародзе, падпаліць хату гэтага суседа ды пакліча на вёску баявы атрад якой-небудзь ПКБ...

З розумам трэба калгасы дзяліць. Тым, хто сілы мае, — жывёлу, тэхніку, старым жа — грашовы эквівалент часткі асноўных фондаў ды магчымасць пажыццёва карыстацца хаця б часткай былой калгаснай маёмасці. А яшчэ лепей, на мой погляд, проста акцыяніраваць былыя калгасы. Хаця гэта — пытанне часу, бо ў краіне, абсалютна пазбаўленай рыначнага механізма, краіне, дзе пануе дзяржзаказ, перайсці на больш цывілізаваныя формы гаспадарання немагчыма.

...Сохне ўсё наўкол. Мясцовыя прарокі прадказваюць голад. Маўляў, не толькі горад не пратрымаецца, але й на вёсцы не так лёгка будзе. Асабліва тым, хто ў свой час не паспеў гарэлкай запасціся ці самагонкі нагнаць. Каб з механізатарамі-манапалістамі разлічвацца. А старшыня што? Як кажуць, рукой на ўсё махнуў...

У цяперашні перыяд я б выдзеліў тры катэгорыі сельскіх кіраўнікоў. Першая — прадстаўнікі "старой гвардыі", людзі, якія гаспадаркі свае з руін паднялі. Яны — эліта калгаснага ладу. Такіх бы ў нармальнае грамадства, дзе ўсё наладжана, дзе, каб свае лепей жылі, не трэба чужых абдзіраць, — цаны б такім не было. Як арганізатары яны па-за канкурэнцыяй. Другая катэгорыя — тыя, каго вылучыла перабудова, хто энергію накіраваў не на набыццё карысных сувязей, а на пошукі новых шляхоў развіцця сваёй гаспадаркі. Такім — сам д'ябал не аўтарытэт, яны любога з трыбухамі купяць, што заўгодна з-пад зямлі дастануць. Але, у адрозненне ад першых, не дзякуючы сувязям, а за грошы. І трэція, якія, быццам старшыня калгаса, у якім я пабыў з візітам, махнулі на ўсё рукой і вырашылі нікому не перашкаджаць... Гаспадаркі, дзе кіруе такі "дафеніст", у бліжэйшым будучым чакае развал, і "на осколках самовластья" напішуць імёны новых фермерскіх гаспадарак.

Што б ні казалі пра дэмакратыю ці публічнасць, але старшыня на вёсцы застаецца Богам, царом і героем. Часам дзякуючы ўласнаму аўтарытэту: інакш ён застаецца на паверхні з дапамогай кучкі падхалімаў. Няма нічога горшага, як такі выпадак, бо тады нямоглым пенсіянерам наогул няма куды падацца, хай ты нават і сто гадоў у тым калгасе "адпахаў". Вось і просяць бабулькі сваіх дзетак прывезці з горада гарэлкі — таму даць, другога "падмазаць", а трэці ўжо і гарэлку не бярэ, патрабуе агарод палоць...

Усё ў вёсцы на гарэлцы трымаецца. У горадзе — таксама, але ж колькі тут той працы, калі толькі сантэхніку часам горла прамачыць... На вёсцы ж, калі й выцягваюць з саломы п'яную даярку пад мыканне нядоеных кароў, ніхто не здзіўляецца. І крочыць тады той самы старшыня ці заатэхнік да пенсіянеркі, ведаюць — не падвядзе яна, не на п'еца... Нават калі замест грошай палачкі ў сшытак ставілі — працавалі. Што ж цяпер?... Жарцік у размове ўзгадалі: маўляў, знайшоў хлопчык палачку на двары ды крычыць: маці, я працадзень знайшоў! А цяпер гэтым маці — дуля замест трактара...

### З размовы каля вясковай крамы.

*ПЕРШАЯ КАЛГАСНІЦА: Вось панараджалі дзяцей, ды не каб дома пакінуць — у горад вязуць, а потым яны прыязджаюць сюды і крадуць...*

*ДРУГАЯ КАЛГАСНІЦА: Перажагнайся, ты што! Ды ніхто з гарадскіх столькі не ўкрадзе, як самі ж! Нідзе ж так не крадуць, як у калгасах. А што дзяцей у горад адпраўляем, дык чаму б ім не вучыцца, калі здольнасці ёсць?*

Здольнасці патрэбны і на вёсцы. Але яшчэ больш патрэбны ёй добрыя рукі. Сялянская праца — рэч такая, што толькі сэрцам можна яе ўспрыняць. Розумам? Як зразумець, з якой карысці амаль без тэхнікі, у пудовых кірзавых ботах, ад цямна да цямна і за невялічкую зарплату працуюць вяскоўцы на гэтай зямлі? Сіла звычкі? Гены? Ці ўсведамленне неабходнасці?

...Суседні калгас у свой час быў перадавым. Толькі вось жанчыны там вельмі часта на поліартрыт хварэлі. Відаць, таму, што ўзімку мылі ў сцюдзёнай вадзе бульбу, якую насілі потым на свінарнік. Санітарыя! Усё для людзей... цаною здароўя гэтых жа людзей.

Раней у вёсцы было двое могілак. Адны — яўрэйскія — раскаталі бульдозерамі. А на тых, што засталіся, хаваюць вяскоўцы сваіх сваякоў ужо каля ста гадоў. Ляжаць у зямлі тыя, хто ніколі не бачыў Савецкай улады, побач — хто толькі пры ёй і жыў. Пытаюся ў сялян: дык калі ж лепей было — пры польскім часе ці пры Саветах? Адказ амаль на сто працэнтаў такі: пры паляках лепей было. Тады хоць ведалі, што ўсё сваё, што ніхто гвалтам нічога не забярэ. Але другая ўлада прыватную ўласнасць не прызнавала... Пра гэты перыяд — вяртанне — яшчэ напішуць і дысертацыі, і мастацкія творы. Але не думаю, каб іх сталі чытаць тыя, хто застанецца на вёсцы. Ім будзе не да таго. Яны возьмуцца выпраўляць памылкі — як тых, хто ствараў калгасы, так і тых, хто іх разбураў.

Алесь Палынскі.

Мёрскі раён.

НА ЗДЫМКАХ:
Амаль прыватызаваная тэхніка.
На каго спадзявацца?

# ЛЕТА. СПЯКОТА. ЖНІВО.

Усё далей на поўнач пашыраецца мяжа жніва ў Беларусі. Уборка пачалася ў Мінскай вобласці, і хоць добраму ўраджаю перашкодзіла працяглая гарачыня, збор зерня ў калгасе імя 17 верасня Нясвіжскага раёна чакаецца нядрэнным, хоць і не параўнальны з мінулагоднім. Уборцы таксама перашкаджае вялікая палегласць.

**НА ЗДЫМКАХ:**

- Адзін з самых вопытных экіпажаў — камбайнер Мікалай НОВІК і яго памочнік Мікалай АЛЯШКЕВІЧ.
- Абед у полі.
- Збожжа новага ўраджаю.

Фота С.Брушко.





# Палессе: беларускі П'емонт ці Етвызь?

“Чырвоная змена” № 24, 8—14 чэрвеня 1992 г.

**Публікуем водгукі нашых чытачоў на артыкул гісторыка Юрыя Шаўцова з Вільні. Як бачна, аўтар закрануў балючую тэму, выклікаў самыя розныя меркаванні і эмоцыі.**

## ЦІ СТУПІЦЬ ХТО НА ШЛЯХ П'ЕМОНТА?

Думаю, не перабольшу, калі скажу, што аўтар артыкула "Палессе: беларускі П'емонт ці Етвызь" адкрыў новы шлях, які пры пэўных акалічнасцях можа саслужыць добрую службу Заходняму Палессю. І хоць ад нараджэння ідэі да яе ажыццяўлення звычайна праходзіць шмат часу, менавіта гэтую "першую ластаўку" (праўда, памерамі сваімі яна напамінае жураўля, што ляціць высока-высока ў небе) варта не выпускаць з поля зроку. Вельмі ж яна (ідэя) прываблівае і з першага погляду, і калі глыбей аналізуеш яе, але толькі ў ідэале. У жыцці ж нельга ўсё зрабіць па нейкаму сцэнарыю, няхай сабе і лепшаму з лепшых, бо вельмі многае ў ім залежыць яшчэ і ад выпадку. А тым больш такую справу, якая патрабуе не толькі намаганняў пэўнага кола людзей, але і паралельнага свабоднага, натуральнага развіцця Беларусі і Палесся ў тым жа кірунку.

Словам, Ідэя Юрыя Шаўцова — гэта пакуль што ні больш, ні менш — журавель у небе. А ў тое, што ён калі-небудзь ды трапіць у рукі палешука-заходніка, я хоць і прагну паверыць, ды ўсё ж сумняваюся і буду сумнявацца да тае пары, пакуль не зацікавіцца ёю і не падтрымае належным чынам не толькі палеская інтэлігенцыя, але і беларуская. А для гэтага трэба шмат папрацаваць: узмоцнена развіваць ідэю, канкрэтызаваць і дэталізаваць яе.

Хачу прызнацца, якое пачуццё апанавала мяне, калі прачытаў такія радкі: "Мы выпадкова апынуліся ва ўмовах, калі нашая аб'ектыўна не вельмі моцная этнічная спецыфіка для беларусаў — своеасаблівы маяк для развіцця. Нам створаны ідэальныя ўмовы для духоўнай экспансіі на ўласна беларускія землі. Хто дасць яшчэ магчымасць нашым каштоўнасцям так лёгка прыжывацца па-за нашымі межамі? А каштоўнасцей шмат. Адно наша праваслаўе чаго вартае, а пратэстантызм, а сялянецяплічнікі, а культ сям'і ды працы? Мы можам стаць П'емонтам беларускай нацыі, ейнай Жмуддзю і Галіцыяй. Адзіны канкурэнт — Мінск — гэта не духоўная сталіца нацыі, а чужы моцным рэгіянальным культурам Беларусі, спецыфічны маргінальны горад, які зжырае Беларусь, ператварае ейную культуру ў культуру краіны трэцяга свету. Ён выклікае рэакцыю адштурхоўвання ў "правінцыі", і атрыманы вакуум духоўнага лідэрства можа запоўніць Палессе як цэнтр традыцыяналізму, увасаблення і нармальнасці гістарычнага шляху беларускай нацыі. Хіба ж то дрэнная перспектыва развіцця невялічкай этнічнай групы?".

Прабачце за доўгую цытату. Але, думаю, свежыя і разумныя меркаванні не грэх і паўтарыць. А выклікалі яны ў мяне, як гэта ні дзіўна, смех. Толькі смяяўся я не з аўтара, а з нашых беларускіх уладароў, з таго, як яны могуць успрыняць напісанае. Я ўспомніў, што кіраўнік урада ў адным са сваіх выступленняў заявіў, быццам ГКЗ "Полісьсе" дамагаецца далучэння Заходняга Палесся да Украіны (і гэта пасля досыць шумнай шматгадовай дзейнасці згуртавання ў Мінску і на Брэстчыне), і раптам уявіў, як вытлумачаць людзі з гэтай кагорты выступленне Юрыя Шаўцова. Напэўна ж, скажуць, што, маўляў, палешукі не тое што аддзяліцца хочуць, а нават завяваць усю Беларусь і на сваёй тэрыторыі паставіць сталіцу. Гэтая думка і змусіла мяне доўга смяяцца.

А калі сур'ёзна, то ці ўдасца прыхільнікам альтэрнатыўнага шляху што-небудзь ажыццявіць з такім вось інтэлектуальным патэнцыялам нашага вышэйшага кіраўніцтва? Каб часам не зарасла сцежка, паказаная Шаўцовым, пакуль тут нешта памяняецца да лепшага.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ,**
**г.Іванава**
**Брэсцкай вобласці.**

## У АГУЛЬНАБЕЛАРУСКІМ КАНТЭКСЦЕ

З вялікай зацікаўленасцю прачытаў матэрыял Юрыя Шаўцова "Палессе: беларускі П'емонт ці Етвызь?". Погляд сапраўды для гэтай складанай праблемы неардынарны. Радуе тое, што шляхі далейшага развіцця палескай культуры бачацца аўтару, зыходзячы з рэальных умоў, у якіх існуе гэтая этнічная група.

А рэальнасць такая, што ўздым нацыянальнай самасвядомасці палешукоў адбываецца побач з тымі ж самымі працэсамі, якія ідуць сярод насельніцтва ўважаючага сябе беларусамі, украінцамі, палякамі. Можа таму і ўзнікаюць час ад часу сярод грамадска-культурных аб'яднанняў спрэчкі наконт прыярытэтнасці развіцця той або іншай нацыянальнай групы. Можа гэта і непазбежна, але вельмі важна, у якіх формах гэта адбываецца.

Ці, аднак, можа быць спрыяльнай дзеля справы міжнацыянальнай згоды дзейнасць такіх актывістаў справы палескага адраджэння, як М.Шэляговіч і Г.Антанюк? Першы няўхільна ажыццяўляе арыентацыю ГКА "Полісьсе" на нацыянальную выключнасць і адасобленасць палескага этнасу, другі будуе філасофскі падмурак такога роду дзейнасці, не грэбуючы пры гэтым у некаторых месцах свайго трактату аб асаблівасцях развіцця заходнепалескага этнасу дапушчальнасці ў пэўных гістарычных умовах фашысцка-бальшавіцкіх метадаў узяцця ўлады. На старонках газеты "Збудінне" з'явілася інтэрв'ю члена аргкамітэта стваранай пад патранатам ГКА "Полісьсе" Партыі заходнепалескага адраджэння Алены Мазько. Як разумею, сэнсам яе стварэння з'яўляецца ні больш ні менш пабудова незалежнай заходнепалескай дзяржавы, землі якой будуць належаць карэнным жыхарам на аснове дакументаў, якія захаваліся ў іх з даўніх часоў. У сваім трактаце Г.Антанюк у пэўных умовах дапускае нават стварэнне ўзброеных фарміраванняў. Ю.Шаўцоў, і гэта добра, адмаўляе ў падтрымцы такіх поглядаў. Можна толькі вітаць пазіцыю аўтара ў тым, што развіццё заходнепалескага этнасу павінна адбывацца ў межах незалежнай беларускай дзяржавы.

Хацелася б толькі ведаць, якой і ў якіх межах бачыцца яму дзяржаўнасць беларускай мовы на Палессі, як і якім чынам у гэтым рэгіёне будзе развівацца нацыянальна-культурная дзейнасць іншых этнічных груп.

Лічу, што, ацэньваючы разважанні Ю.Шаўцова, можа, не трэба ўдавацца ў шчэгулы. Галоўнае ў тым, што ў адрозненне ад поглядаў Шэляговіча і Антанюка аўтар акрэслівае накірунак развіцця заходнепалескага этнасу ва ўзаемадзеянні з іншымі нацыянальнымі групамі, не змяняючы пры гэтым геапалітычную раўнавагу, што склалася цяпер, добрыя адносіны да культуры і традыцый кожнага з насяляючых гэты спецыфічны рэгіён народаў, незалежна ад іх колькасці і, галоўнае, без прымусу.

**Ігар ДРАГУН,**
**сябра БСДГ,**
**г.Берасць.**

Перш чым гаварыць, дзе заходняму палешуку лепей (на Украіне ці ў Беларусі), трэба спачатку добра паразважаць: што для яго Беларусь

## МАТУЛЯ ЦІ МАЧАХА?

Адгукнуўшыся на артыкул гісторыка Юрыя Шаўцова "Палессе: беларускі П'емонт ці Етвызь?" ("ЧЗ", №24), я менавіта так завастраю пытанне, пастаўленае аўтарам гэтай публікацыі. Таму што ў цэлым спрачацца з ім, здаецца, няма ў чым, хаця артыкул анансаваны як альтэрнатыва ідэі М.Шэляговіча і ягоных паплечнікаў аб наданні Заходняму Палессю статуса аўтаномнага краю — Етвызі.

Мяркуйце самі: ці варта спрачацца пра тое, што заходнія палешукі ніколі не лічылі сябе ўкраінцамі? Так, не лічылі. І сёння не лічаць. Ці спрачаемся мы аб тым, што нават калектывізацыя не згасіла спрадвечную прагу палешука да вядзення самастойнай гаспадаркі? Не выклікае спрэчак і сцвярджэнне Ю.Шаўцова з нагоды паслядоўнага (я б сказаў метадычнага) знішчэння мясцовай інтэлігенцыі як польскімі панамі, так затым і Саветамі. Абсалютна згодны з тым, што і да ўлады карэнных жыхароў краю не падпускалі, каб раз і назаўсёды забыліся яны пра сваю нацыянальную самабытнасць, а тым больш годнасць. І тут мае рацыю гісторык: многія з іх зараз сапраўды лічаць сябе беларусамі. А куды дзецца? У пашпарце так запісалі! Для большасці рэспубліканскай савецкай наменклатуры і культурнай эліты гэта якраз тое, што трэба. Цяпер яны "на кані": маўляў, не было і няма ніякай такой этнічнай супольнасці на Брэстчыне. Я не заўважыў ад усяго гэтага асаблівай радасці ў Ю.Шаўцова. Але нейкі бледна-ружовы аптымізм у ягоных разважаннях назіраецца. Паважаны гісторык чамусьці робіць выснову: навошта, маўляў, нам, палешукам, "маленькай этнічнай групе", канфліктаваць з беларусамі. Наадварот, маўляў, трэба рабіць выгляд, быццам бы мы ўсім задаволены. А Беларусь нас не пакрыўдзіць. Яна, нібыта, так і разагналася захаваць і развіць нашыя этнічныя асаблівасці.

Дарагі мой зямляк! Я б вас расцалаваў, калі б хаця ўбачыў заўтра-паслязаўтра нешта падобнае на такую братэрскую дапамогу ці нейкае ўзаемаразуменне з боку рэспубліканскіх улад. Пакуль жа яўна назіраецца абсалютна іншае. Руку дапамогі і сяброўства цягне да нас не "родная" Беларусь, а "чужая" Украіна. У рэспубліканскім друку ўжо прыгадвалася: украінскія ВНУ бяруць на вучобу па 30 выпускнікоў школ Прыпяцкага краю на льготных умовах — без экзаменаў. Для паступлення дастаткова ведання роднага дыялекту. Заўважце: не ўкраінскай мовы, а дыялекту.

Скажу больш. Паўсюль яўна назіраецца тэндэнцыя вышэйшых структур выставіць прадстаўнікоў "Полісься" (адзінага грамадска-культурнага аб'яднання на тэрыторыі краю), як "ворагаў народа". У афіцыйнай прэсе, на радыё, тэлебачанні не сціхае кампанія неабгрунтаваных нападак на тых, хто хоць штосьці спрабаваў рабіць па культурнаму адраджэнню Палесся. Члены "Полісься" пазбаўлены нават права на законнае абвяржэнне такіх тэндэнцыйных матэрыялаў. А артыкулы заходнепалескіх вучоных не друкуюцца — маўляў, гэта пагражае Карабахам ці яшчэ якім-небудзь "замахам".

У адным мае рацыю ў сваіх вывадах Юрый Шаўцоў: цяжка будзе выстаяць майму краю без дапамогі Мінска пад націскам украінізацыі ды паланізацыі. Актывісты ГКА "Полісьсе" гэта даўно ўсвядомілі і даўно чакаюць дапамогі ад рэспубліканскага кіраўніцтва. На жаль, паперы на гэты конт, дасланыя на імя Кебіча і Шушкевіча, дагэтуль ляжаць у кагосьці пад сукном. А просім жа мінімальнае: хаця б атрымаць ільготы на выданне палескамоўнай газеты "Збудінне" і неабходную суму для адкрыцця палескамоўнага літаратурна-мастацкага часопіса.

Прыйдзецца, відаць, прасіць у чужога дзядзькі-капіталіста, а падаткі, як і трэба, плаціць роднай Беларусі. Няўжо ў гэтым заключаецца "беларускі П'емонт", дарагі зямляча Юрый Шаўцоў?

**Васіль БРЫЛЬ,**
**член ГКА “Полісьсе”.**

## ЛЕПШАЕ ВЫЙСЦЕ З СІТУАЦЫІ...

Прачытаў у "Чырвонай змене" артыкул Юрыя Шаўцова з Вільні "Палессе: беларускі П'емонт ці Етвызь?". Адразу хочацца пагадзіцца з аўтарам, што шляхам кампрамісу Беларусь зможа набыць сталую стабільнасць і згоду між усімі карэннымі народамі Айчыны, у тым ліку заходнімі палешукамі і беларусамі. Здаецца, сам Ніл Гілевіч, якога ўпамінае аўтар у сваім артыкуле, не зусім ужо супраць таго, што заходнія палешукі крыху іншыя, што "трэба захоўваць этнічна-культурныя і моўныя асаблівасці жыхароў Палесся, мясцовыя традыцыі, звычаі, фальклор, народныя промыслы і г.д." (з ягонага адкрытага ліста дэпутатам Пінскага гарсавета).

Што ж тычыцца М.Шэляговіча з ягонай выдумкай "Етвызі", а зноў жа і "літаратурнай нормай" яго "яцвяжскай мовы", якую ён беспасляхова тужыцца навязаць жыхарам Заходняга Палесся, то гэты чалавек сур'ёзна ўспрымаецца людзьмі, якія не ведаюць сітуацыі ў рэгіёне. За ім на Палессі практычна ніхто не стаіць. Людзі, якія спачатку хіліліся да ягонай ідэі, даўно адышлі: на Палессі ніхто нават слухаць не хоча пра ягоную яцвяжскую выдумку. Таму асаблівай увагі да гэтай праблемы няма, калі не лічыць адзіны выпадак у пачатку гэтага года на сесіі Пінскага гарадскога Савета, дзе дэпутаты неяк нагадалі, што на Палессі і менавіта ў Пінску ёсць яшчэ і свая, самабытная мова палешукоў.

Цэласнасці Беларусі ў Пінску ніхто не пагражаў і не пагражае. Але мала хто ведае, што Пінская рэгіянальная гуртына ГКА "Полісьсе" ўсім сваім саставам (сярод нашых членаў — дэпутат беларускага парламента, некалькі дэпутатаў гарадскога Савета, журналісты, педагогі, урачы, служачыя і працаўнікі прадпрыемстваў) у красавіку гэтага года падпісала заяву аб адмежаванні ад дзейнасці М.Шэляговіча і адмовілася ад ягонага кіраўніцтва. 11 красавіка праўленне гуртыны ў Пінску разгледзела ўсе заявы, якія набраліся ад яе членаў за ўвесь перыяд, аб выхадзе з ГКА "Полісьсе", а таксама заяву Драгічынскай гуртыны і прыняло рашэнне аб адлучэнні ад сябе М.Шэляговіча як інтрыгана, вядучага дзейнасць, што не стасуецца са Статутам і не прымаецца самімі палешукамі.

Справа тут у тым, што Пінская заходнепалеская арганізацыя самастойна ўзнікла яшчэ ў 1989 годзе. А ў сакавіку 1990 года была зарэгістравана пад № 77 пры Пінскім гарадскім аддзеле культуры, як грамадска-культурнае аб'яднанне "Полісьсе".

Але ці мае рацыю паважаны Ніл Гілевіч, калі часам б'е трывогу: "Спыніць замах на адзінства і цэласнасць Беларусі"? Мае! Аднак справа тут у тым, на жаль, што і ён сам закрывае вочы на існуючую праблему, такім чынам, правакуе гэту небяспеку, з'яўляецца міжвольна асялком, на якім вострыцца тая сякера, якой нехта, можа так здарыцца, паспрабуе адсячы Заходняе Палессе ад Рэспублікі Беларусь. Калі М.Шэляговіч адштурхнуў ад сябе сваім экстрэмізмам і ўпартасцю ў навязванні надуманай мовы і Етвызі, то Н.Гілевіч, па сутнасці, пагражае: "маўчаць" і кропка. А праблема застаецца...

Пры такіх абставінах нельга не пагадзіцца з заўвагай Юрыя Шаўцова, дзе ён, як у ваду глядзіць, чытаючы і нашыя трывогі: "З іншага боку, ці ўстаіць Палессе без дапамогі з Мінску перад уціскам паланізацыі? Ці не падштурхне паланізацыя праўкраінскі настрой?..".

Гэты працэс ідзе і ён пры такіх абставінах будзе набіраць сілу яшчэ хутчэй. Я не супраць Украінскага згуртавання не толькі на Палессі, але і ва ўсёй Рэспубліцы Беларусь. Але калі нехта сёння заяўляе, што на Берасцейшчыне жыве "корэннэ насэлэнне Украінців — одын мілıон трыста тысяч", то заўтра могуць знайсціся "героі", якія скажуць: "Колы мы — украінці, нэгожэ нам жыты з білорусамы...". Чамусьці вось гэта не могуць заўважаць тыя дзеячы-жартаўнікі, якія усё ж спадзяюцца на "некалькі карных экспедыцый", не маючы часу і жадання дапамагчы палескаму руху за аднаўленне сваёй самабытнасці не з погляду М.Шэляговіча, а з крыніц палескай чысціні.

Вось чаму мы ў Пінску, на наш погляд (без ужывання тэрміна "П'емонт"), сталі на пазіцыі, пра якія і піша Юрый Шаўцоў. Дзякуй яму. Але мы чакаем усё ж дапамогі якраз ад тых, хто зараз супрацьстаіць палескаму руху. Дзеля будучага міру і згоды.

**Каленік УДАВІДЧЫК,**
**старшыня Пінскага**
**грамадска-культурнага**
**аб'яднання “Полісьсе”,**
**г.Пінск.**

## *Каментар аўтара*

Мне здаецца, не трэба пераводзіць праблему Палесся ў выключна этнаграфічнае рэчышча. Вонкавыя рысы культуры з'яўляюцца толькі формай, у якой яна жыве. Таму, калі людзі пачынаюць займацца апалагетыкай формы, дык пра культуру неяк забываюцца. Канешне, Палессе мае вельмі своеасаблівую форму, але яе галоўным багаццем з'яўляецца яе душа. Тыя, хто там нарадзіўся, ведаюць, што лепшым кампліментам палешуку будзе не пахвала ягонай мове ці нават гаспадарцы, а словы, што "ў вас самыя лепшыя ў свеце людзі". І я, калі ўзгадваў этнічную спецыфіку Палесся, меў на ўвазе падкрэсліць не яе, а тое, што за гэтым стаіць. Нашае галоўнае багацце – гэта нашыя людзі і наш лад жыцця. Гэта менавіта тут быў самы малы ўплыў камуністаў, палякаў ды расейцаў, які разарваў на шматкі цела астатняй Беларусі. Тут захавалася вёска. Тут існуе жывая царква. Тут няма комплексаў нацыянальнай непаўнацэннасці, рахманасці і скарэння ўладзе. Тут ніколі на памяці людзей не перарывалася сувязь часу і пакаленняў. І менавіта ў гэтым спецыфіка Палесся. Усё астатняе – гэта форма, аб'ект нашага ўласнага сентыментальнага замілавання, гэта наша паляшуцкая, сямейная справа. І не трэба ў яе лезці звонку. Тым больш, што з гэтага пункту гледжання Палессе рознае. Я, напрыклад, не магу выкінуць са свайго ўсведамлення Палесся беларускамоўныя, зрэшты, Альшаны, Давыд-Гарадок, Іванцэвічы ці Целяханы. Там нашыя людзі, таму што яны жывуць па-нашаму. І я не думаю, што калі моцныя сем'і, культ працы, вера ў Бога, любоў да сваёй зямлі, уменне ўжывацца з іншымі людзьмі, не адступаючы ад сябе, распаўсюдзяцца адсюль далей, то гэта будзе дрэнна для Беларусі. Ці не гэтага прагне Беларускі рух? Мне здаецца, барацьба за беларускую мову, дзяржаву, гісторыю – гэта толькі сродкі дасягнення гэтай мэты. Беларускі рух дзейнічае сваімі метадамі, збольшага праз дзяржаву, а ўплыў Палесся распаўсюджваецца інакш – на ўзроўні народнай культуры і маралі. Яны проста ўзаемадапаўняюць адзін аднаго. У гэтым сэнсе Палессе выступае ў якасці супольніцтва, якому патрэбны не міф, а праўда. Пэўная канфліктнасць беларушчыны і Палесся – у розных духоўных акцэнтах: беларушчына апелюе да міфа, да сярэднявечча, мінулага ўвогуле (і гэта нармалёва для ўздзеяння на горад, калі ўжо ўрбанізацыя з'ела вёску). Палессе – да рэчаіснасці, бо здаровае грамадства тут і так ёсць. Таму "свядомы беларус" бачыць у Палессі толькі тое, што хоча бачыць: іншую мову, ментальнасць, напрыклад, але ж гэта – дробязь. Больш яскравая этнічная спецыфіка, чым на ўласнай Беларусі, тут прывяла чамусьці да ўзнікнення абсалютна касмапалітычнага пратэстантызму. Таму і Мікола Шэляговіч – гэта менская з'ява, калька з менскага беларускага кола па ідэалагічных пастулатах, і на Палессі ўплыву ён амаль не мае.

Палессе як нармальнае супольніцтва па-свойму ўзнімае і іншыя праблемы: Чарнобыль і "капіталізм", напрыклад. Мы – нацыя чарнобыльцаў. Каб не было Яго, мы маглі б адрэзаць Палессе ад Беларусі, як іншароднае цела, але пасля Яго (хай гавораць палешукі хоць па-кітайску) мы ўжо непарушнае ў жаху адзінае цела. Этнічная спецыфіка Палесся ў гэтым целе дадаткова стрымлівае энтузіястаў сваёй мовы, сваёй ідэі, а не любові да сваіх людзей. Тое ж тычыцца "капіталізму". Палессю, якое заўжды жыло ў ягонай атмасферы, трэба не расейскі ягоны дзікунскі варыянт, а боскі, людскі, чалавечы. Не павінна эканоміка панаваць над чалавекам. Супольніцтва – не эканоміка. А ў адрозненне ад астатняй Беларусі палешукі ведаюць, што гэта такое: нездарма цяплічная Століншчына не ведае мафіі. Такі вось атрымліваецца П'емонт.

**Юрый Шаўцоў,**
**г.Вільня.**




Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка, тэл. 39-87-94.

**№11 (201)**

*Падрабязнасці для фанаў*

# БЕЛЫЯ РУЖЫ ДЛЯ ЭЛВІСА ПРЭСЛІ



*У жыцці "караля рок-н-рола" здаралася шмат цікавых і нават забаўных фактаў. Вось некаторыя з іх:*

– Будучы кумір Амерыкі нарадзіўся ў 4.35 раніцы ў бараку ў нябогай сям'і ў год Вялікага крызісу ў пасёлку Цьюпела на сумежжы штатаў Тэнесі і Місісіпі.

– У школьныя гады быў сарамлівым і нясмелым, а ажываў толькі, калі яго прасілі штосьці праспяваць.

– Акрамя песень "Усё ў парадку, мама" і "Шчасце маё", якія ўпершыню былі запісаныя ў студыі "Сан Рэкордс" да дня нараджэння маці, там жа ён потым наспяваў шэраг песень, якія дагэтуль не знойдзены на ніводнай з кружэлак. Сярод іх – "Блакітная гітара", "Дзядзя Пэн", "Начны цягнік у Мемфіс" і іншыя.

– У песнях "Стары пастух" і "Бездакладнае каханне" з ягонага першага альбома на фартэпіяна граў сам Элвіс, а на песні "Блакітны месяц" можна пачуць, як загудзеў у студыі сатуратар газвады.

– 5 мая 1956 года першы альбом Прэслі скарыў вяршыню гіт-парада ў часопісе "Білборд" і трымаўся на ёй цэлыя 10 тыдняў, а ў самой табліцы 56 тыдняў.

– Праз шэсць дзён, 11 мая, ён набыў першы сапраўдны дом для сваіх бацькоў.

– 1 мая 1957 года Элвіс пачынае здымацца ў фільме "Турэмны рок", пад час аднаго з сюжэтаў якога яму ніяк не ўдавалася зламаць гітару аб столік нібыта перашкаджаўшай выступаць наведвальніцы бара. Дублі паўтараліся адзін за адным, а бедную дзяўчыну не паспявалі пераапранаць з-за напітакаў, што разліваліся на яе адзенне. У рэшце рэшт Элвіс злітаваўся і сам спыніў здымкі. "Калі гэтак пойдзе і надалей, дык застанешся зусім без нічога",– пажартаваў Элвіс.

– У 1961 годзе ягоны менеджэр Эндру Паркер адхіліў прапанову галоўнай ролі для Элвіса ў экранізацыі п'есы Т.Уільямса "Салодкая птушка маладосці". "Роля такога кшталту можа сапсаваць ягоную рэпутацыю", – гаварыў Паркер. Як вядома, гэтую ролю сыграў Пол Ньюман, у выніку чаго яна прынесла яму папулярнасць.

– У 1962 годзе "Радыё Ганалулу" цэлыя 75 гадзін перадавала песні Элвіса Прэслі і літаральна было засыпана 10000 званкамі з просьбай працягваць перадачу, але раптам патэлефанаваў сам Элвіс з патрабаваннем ейнага спынення.

– У гэтым жа годзе ён перадаў 10 тысяч даляраў на рахунак "Малочнага фонду", які займаўся размеркаваннем малака для дзяцей самых бедных сем'яў у Мемфісе.

– Атрымліваючы штотыднёва 2000 лістоў са шлюбнымі прапановамі, Элвіс выдаў кружэлку на гэтую тэму "Праўда пра мяне", дзе папулярна растлумачыў, чаму ён яшчэ не жанаты, не п'е і не курыць, мае шмат аўтамабіляў і... прасіў вярнуць той, што ўкралі.

– У 1963 годзе Элвіс за 55 тысяч даляраў набыў вялікую яхту "Патамак" (раней яна належала прэзідэнту Рузвельту) з мэтай перадачы яе ў Фонд міласэрнасці. На ягоны жаль, фонд адмовіўся прыняць такі каштоўны падарунак. А потым ад яе адмовіўся і шпіталь у Мемфісе. Разгублены Элвіс адвёў яхту на раку Місісіпі і аддаў пад водны рэстаран, які існуе і дагэтуль.

– Элвіс не любіў граць у азартныя гульні з дзяржавай, але на Сусветнай выставе "Экспо-62" у Сіэтлі набыў латарэю, што была арганізавана з дабрачыннай мэтай. Калі яму патэлефанавалі аб тым, што ён выйграў аўтамабіль, ён адмовіўся, прапанаваўшы разыграць яго яшчэ раз.

– Калі тэлебачанне прапанавала 60 тысяч за ўдзел Элвіса ў адной з перадач, ягоны менеджэр Эндру Паркер халадна адказаў: "Гэтага дастаткова толькі для мяне, але колькі ж вы дасце самому Элвісу?".

– Захапіўшыся каратэ, Элвіс, як правіла, на канцэртах завяршаў песні стойкамі каратэ.

– Вельмі доўга не атрымлівалася ў Прэслі пазнаёміцца са сваім галоўным канкурэнтам – гуртом "Бітлз", які выступаў пераважна па іншы бок Атлантыкі. Але вось, нарэшце, яны сустрэліся 27 чэрвеня 1965 года ў 10 гадзін вечара ў Лос-Анжэлесе. Больш за ўсё хваляваўся сам Элвіс, апрануты, як заўсёды, у кашулю з высокім каўнярам. Ён так апранаўся не таму, што меў доўгую шыю, а таму, што натхняўся партрэтамі старажытных філосафаў з ягонай любімай кнігі "Вачыма жывапісцаў". Сустрэўшыся, кумір і ягоныя паслядоўнікі хутка знайшлі агульную мову і спадабаліся адзін аднаму, хаця спачатку "бітлы" не маглі адвесці сваіх зачараваных вачэй ад самога Элвіса, а потым ад ягонага каляровага тэлевізара, які ўбачылі ўпершыню. Рынга пачаў калаціца ў вялікай калекцыі іхніх кружэлак, а Пол падзяліўся з Элвісам сакрэтамі гульні на бас-гітары, пасля чаго Прэслі пахваліўся сваім новым "Ролс Ройсам Фантомам-5", але крыху засмуціўся, што Джон Ленан мае такі ж. Тады Элвіс паказаў сваю пераносную сауну ў выглядзе вялікай шафы, унутры якой раптам апынулася адна з фанатак, якую з цяжкасцю ўдалося выправадзіць.

– У 1968 годзе Элвіс Прэслі атрымаў узнагароду "Для чалавека, які паказвае лепшы прыклад амерыканскай моладзі", у 1971 годзе ў сваім лісце Прэзідэнту Ніксану ён напісаў, што гэтая моладзь складаецца з адных толькі хіпі і наркаманаў.

– Вялізнай калекцыяй кружэлак Элвіса валодаў шах Ірана Рэза Пехлеві.

– Калі Мануэль Нар'ега хаваўся ў пасольстве Ватыкана, амерыканскія салдаты, каб зламаць яго, абклалі ягоную рэзідэнцыю гучнагаварыцелямі, з якіх несліся шлягеры Элвіса "Ты – не бог" і "Турэмны рок".

– У жалобны дзень 16 чэрвеня 1977 года кошт нумара газеты з калонкай "Кароль мёртвы" з рук дасягаў 300 даляраў.

– Праз два гады ў гарадку Цьюпела, дзе ён нарадзіўся, на ахвяраванні ягоных паклоннікаў была пабудавана мемарыяльная капліца.

– Паводле паведамленняў прэсы, у 1982 годзе 1403 з іх зрабілі пластычныя аперацыі, каб стаць падобнымі на свайго куміра.

– Амерыканцы па-ранейшаму любяць свайго Элвіса. Зусім нядаўна адбылося адкрыццё пабудаванай у Мемфісе вялізнай піраміды з музеем і атракцыёнамі ўнутры, а год таму быў выпушчаны адэкалон "Элвіс" з флакончыкам у выглядзе палаца "Грэйслэнд", дзе жыў Элвіс Прэслі, а таксама старанна запакаваныя кружэлкі, якія распаўсюджвалі водар гэтага адэкалону, які пахне суніцамі, кіпарысам, крыху лавандай і нават кавай, але асноўны ягоны склад – сандалавае дрэва, азіяцкі ветывер і бальзам аднаго з сямейства піхты. Вытворца адэкалону – амерыканскае аддзяленне фірмы "Rure" у Парыжы, вядомае сваімі духамі "Табу", "Каноэ", "Сафары", "Грыф". І вось цяпер "Элвіс".

– У студзені мінулага года ў прэстыжнай Нацыянальнай Галерэі гістарычных асоб быў змешчаны партрэт Элвіса Прэслі, выканы Вольфам Кованам. Гэты партрэт мастак пісаў па просьбе самога Элвіса яшчэ ў 1969 годзе. Сам Кован вядомы як сямейны жывапісец, які пісаў партрэты для суперзорак, манархаў, бізнесменаў і іншых знакамітых асоб выключна для іхніх палацаў альбо шыкоўных асабнякоў.

– У Будапешцкім фан-клубе Элвіса самы жорсткі адбор для кандыдатаў у ягоныя члены. Кожны павінен ведаць падрабязна біяграфію Прэслі, мець поўную калекцыю ягоных кружэлак, спяваць ягоныя песні і ўмець арганізоўваць вечарынкі, якія заўсёды праходзяць з вялікім аншлагам. Так, у мінулым годзе, калі на дунайскім востраве праходзіў "баль Прэслі", на вуліцы, нягледзячы на мароз, сабраліся тысячы людзей, каб паслухаць яго песні.

– Фаны ж польскага клуба выбралі сабе палац культуры, які без усялякай перабудовы нагадваў палац "Грэйслэнд".

– Першай савецкай асобай, нага якой у блакітным замшавым чаравіку ступіла ў святыню Элвіса ў Мемфісе, быў 44-гадовы фан рок-н-рола з Піцера Мікалай Васін. Ягонай паездцы садзейнічалі адразу два Інтэрнацыяналы: англійскі фан-клуб "Elvisly Yours" і амерыканскі "Suspicions Mind". Гэтая гістарычная з'ява для жыхароў садружнасці, якія жылі за "жалезнай заслонай", адбылася ў кастрычніку 1989 года. Добра было б, каб любы фан з СНД мог гэтаксама, як і Васін, наведаць гэтае месца. Хаця б і на схіле свайго "цудоўнага жыцця".

Кастусь ВАКУЛЕНКА.

*Фестывалі*

# Бесы на

**Фестываль музыкі Маладой Беларусі ўжо трэці раз праходзіць... у Польшчы. Але толькі сёлета ён, нарэшце, прывабіў належную ўвагу ў самой Беларусі і прэтэндаваў на грандыёзны рэзананс. Толькі што казаць пра звыклых тусоўшчыкаў, якія амаль марна прарываліся на той бок дзяржаўнай мяжы, калі нават не ўсе запрошаныя музыкі здолелі перайсці гэты рубікон. Зрэшты, усё па парадку.**




"Басовішча-92" адчыняецца.



Пад закваску добра ідзе піва з марозівам.

А 9-й гадзіне 15 ліпеня наш турыстычны "ЛАЗ", які ўмясціў гурты "Палац" і "Крама", некалькі бардаў і групу журналістаў маладзёжнай прэсы, рушыў на Захад. Да адкрыцця фестывалю заставалася два дні. Той, хто чуў пра ўрадавае пагадненне паміж Польшчай і Беларуссю аб бесперашкодным пераездзе мяжы музыкамі, спартсменамі, дзеячамі культуры ды г.д., мабыць, падумае: "Навошта гэтак рана выехалі?" Але той, хто паспеў ужо ўсвядоміць марнасць дзяржаўных ініцыятыў, паўсюднае невыкананне дзяржаўных пастаноў, бадай, здзівіцца: "Ці не запозна?"

Сапраўды, памежны Брэст сустрэў нас расчараваннем: мінула ўжо акурат два дні, як тут разбіла табар літоўска-беларуская тэлерадыёбрыгада. Здымаць ім выпадкова яўна не фестываль.

Нават калі вам даводзілася выязджаць за той бок Буга, цяпер бы не пазналі мяжу. Хоць яна і раней была на суровым і складаным замку, цяпер "ускладнілася" яшчэ метраў на 300: перш чым вы дасягнеце мытні з усімі ейнымі чалавекаабразлівымі абліччамі ("Эй, ты чего стал здесь, я же сказал, што б вышли все на улицу... Эй, стоять, я же не сказал идти к автобусу, а только на улицу... Вот я тебе шчас отлинею... А ну покаж, что у тебя в штанах"), вас сустрэне новая фірма "Мытны сервіс".

— Как, ваш автобус не поставлен на код? Без кода мы пропускаем только один автобус в день в порядке очереди.

Ніякія міжурадавыя пагадненні не датычаць гэтага прылізанага маладога піжона, але калі ён "зычліва" раіць звярнуцца да шэфа "Мытнага сервіса", дзе пасля двухгадзіннага падарожжа па Брэсце і амаль такога ж таптання ля кабінета, нам выпісваюць за нашыя ж 6000 рублёў пропуск, некаторыя суайчыннікі ледзь не ў ножкі "дабрадзейным" рэкецірам кідаюцца.

На польскім беразе Буга нам ледзь таксама не дабілі святочны настрой:

— Экалагічны падатак — 1500 рублёў,— прывітаўся з намі цэльнік.

Напароўшыся на разгубленыя твары і пачуўшы распавед, як нас абчысцілі нашыя рускамоўныя суайчыннікі, ён запытаў:

— Чы то музыкі бялорускє ядон на фестывал роковы? Вемы о "Басовішчу". Ану, Алеська, сыграй "Ручнікі".

Лявон, якога назвалі Алеськам, збацаў "Ручнікі". Яго падтрымаў мытнік, службовец памежнай службы і ўвесь наш аўтобус. Гэтага было дастаткова.

Калі колы пачалі ўжо таптаць гладкі польскі асфальт, наш настрой станавіўся ўсё больш і больш аптымістычным. А гэты аптымізм яшчэ і ўмацаваўся, калі мы ўехалі ў знаёмы лясок каля Гарадка (некаторыя "совецкие белорусцы" называюць яго Грудкам). Аказалася, пра ўсіх нас ужо паклапаціліся: прыгожыя дзяўчаткі з БАСу хуценька расквартаравалі гасцей у палатачным гарадку, упрыгожаным зухаватымі беларускімі ўказальнікамі "Крама", "Журналісты", "Ліцэй", "Ср...ны шлях" і г.д., выдалі квіткі на наведванне мясцовага рэстарана, а музыкі тут жа ацанілі новазбудаваную сцэну, ліха аздобленую ды абсталяваную "Дынакордам". Праўда, не скажу, што гэтыя ацэнкі былі вынікам аднадушнага захаплення: хтосьці скептычна выказаўся пра магчымасці той жа канцэртнай панарамы "Dynacord", камусьці не спадабаліся суровыя ўмовы намётавага жыцця. Але такая ўжо чалавечая натура: хто ўсім задаволены, той, лічы, спёкся.



Варашкевіч (уверсе) і Шэўчык (унізе) – гэта аліхтаральная "Крама".



Вырашыўшы арганізацыйныя пытанні і ўзгадніўшы расклад праграмы, мы вырашылі астатак дня прысвяціць вырашэнню сваіх фінансавых праблемаў. Справа ў тым, што ні музыкі, ні журналісты не мелі за сваёй спінай спонсараў, каб іхняя праца на фестывалі не нагадвала сірочае існаванне. У гэтую камандзіроўку кожны ехаў пераважна за ўласны кошт. Больш таго, музыка, які купіў сабе які-небудзь "Фэндэр-Стратакасцер" пад час мінулай замежнай гастролі, старой мытнай пастановай абавязаны плаціць 2000 рублёў падатку за вываз інструмента, а потым яшчэ 2000 за ўвоз, бо спачатку нават паточная заходняя гітара ўлічваецца як "каштоўны мастацкі скарб краіны", а пасля — як узор выгаднага камерцыйнага тавару.

Дык вось аперыцца нашым абшчыпаным пеўнікам мастацтва дазваляў той жа рынак, які ніяк не раскруціцца ў нас, але выдатна буяе ў Польшчы. Краіна не пакутуе на дэфіцыт гаспадарчых тавараў, відэакасет, рыбных кансерваў і нават гарэлкі, але Гарадок у тыя фестывальныя дні быў у значна прыўзнятым настроі, што прыдбаў усё гэта крыху танней, чым звычайна. Дый удзельнікі фэсту адчувалі сябе някепска ад наяўнасці пухленькага пачка залатовак у кішэні. Бо рэстаран рэстаранам, але трэба ж і піва з сябрамі папіць (а яго ў Польшчы — на любы густ), і сувенір які дадому прывезці.

Так, базар і для нас, журналістаў, стаў адным з фестывальных уражанняў.

— Колькі каштуе касета відэа?— чуваць запытанні мясцовых жыхароў.

— Тшыдзесьце пенць тысенцы,— адказваюць госці Польшчы.

— Во, трыццаць пяць! А ў нас горшыя па сорак. Трэба купіць,— вырашаюць "палякі".

— І не зле бэндзе,— рэкламуюць гандляры.— Бо гэта найноўша сэрыя.

Знаходзячыся ў Польшчы, мы імкнёмся, каб нас разумелі палякі. А тыя здзіўляюцца:

— Што ты балбочаш на гэтай мове, я яе сам добра не ведаю. Гавары па-нашаму. Мы ж не дурныя, мы таксама "Ніву" чытаем і памятаем, хто мы ёсць.

"Па-нашаму" — гэта значыць па-беларуску. І мы мацней усведамляем, што мы, госці Беласточчыны, знаходзімся ў Польшчы сярод беларусаў. І ўсе яны ведаюць пра "Басовішча", чакаюць яго, а развітваюцца — толькі "да Басовішча". А некаторыя тут жа зазываюць у госці, на каву. У іхніх гасцінных хатах адчуваеш сябе як дома.

Ды досыць пра быт. Лепш пяройдзем да спраў духоўных — да музыкі, дзеля якой і ўзнік гэты фестываль. А "Басовішча" — гэта беларуская музыка, якая з'яўляецца і крыніцай, і сродкам усталявання беларускага быту, беларускай самасвядомасці. Першы канцэрт "Басовішча-92" распачаўся 17 ліпеня а сёмай гадзіне ўвечары.

Вядучыя Алесь Максімюк і Бася Кучынская пасля уступа-знаёмства прапанавалі публіцы паслухаць колькі беларускіх выканаўцаў з Беласточчыны. На жаль, гурта "Альбарасіка" гэтым разам не было, а іншыя пакінулі слабае ўражанне. Толькі бардэса Эля Бэзюк задэманстравала пераканаўчае апанаванне публікай.



Беласток расшыфроўваецца як Беларускі Вудсток.

# “Басовішчы”


Гэта не папугай, гэта Шаўкевіч, якога запісвае мясцовае радыё.

Лірыка менскіх бардэс Вольгі Акуліч і Ланы Медзіч (яна ж Святлана Мядзведзева) была здольная крануць за жывое, але хіба ў больш камернай абстаноўцы. Тут, у актыўнай нацыянальна-адраджэнскай тусоўцы, патрабавалася, аднак, нешта рэвалюцыйнае, палымянае. Нават у патрыятычнай лірыцы Сержука Лаўніка адчувалася, што нешта адсутнічае. Тое, што так востра выявілася ў гарадзенскага барда Віктара Шаўкевіча. Ягонае песня-прывітанне “Добрай раніцы, жлобская нацыя” ўскалыхнула шэрагі слухачоў, большасць падпявала кожную страфу, кожны рэфрэн, бо Віктара тут ведаюць і з канцэртаў, і з кампакт-касет, якія карыстаюцца, гэтак мовячы, павышаным попытам.

Шаўкевіча бісавалі да таго часу, пакуль ён не паабяцаў выступіць з абноўленай часткай праграмы і на другі дзень. А новыя песні, аказалася, прынеслі і новую тэму ў беларускую папулярную музыку: “Цярэшчанку зноў не пусцілі ў Канаду” (“Смутны беларускі блюз”), “На сцэне — беларусы, за сцэнай — маскалі” (“Не выходзь замуж за рокмэна”) і г.д.

Праўда, дзіўна было, што, прыкмеціўшы двухаблічнасць некаторых беларускіх музыкаў, Шаўкевіч сам прывёз на фэст беларускай музыкі англамоўны гарадзенскі гурт “Сэвэн Бі”. Хлопцы някепска лабалі “стары добры гард-рок”, абвесткі рабілі па-беларуску, але ў нацыянальна-адраджэнскую ідэю фэста ніяк не ўпісвалася іхняя творчая канцэпцыя. Нават калі ім у кулуарах прапанавалі на перспектыву беларускі пераклад адной з кампазіцый “Дып пэрпл”, што яны выконваюць, “Сэвэн Бі” катэгарычна адмовіліся: “Не-не, крый Божа! Толькі па-ангельску”.

Тут ужо выплываюць прэтэнзіі да арганізатараў, якія, здаецца, не ў стане кантраляваць кантынгент выканаўцаў на ўзроўні, дастойным той рэпутацыі, якую стварылі папярэднікі: як гэтак выходзіць, што Зміцеру Сідаровічу з ягоным гуртам “Камелот”, які з’яўляецца ледзь не класікам жанра і песні якога выконвала на “Басовішчы” віцебская “Грамада”, самому не ўдалося выступіць, што Андрусь Мельнікаў, якога ведае кожны свядомы беларус, увогуле не прыехаў, як не прыехаў і гурт “Грунвальд”, хоць апошняга затрымала толькі мытня, затое поўна было англамоўных “Сэвэн Бі” і “белоруссцев” на два дні кшталту “Вакзала” (Віцебск), “Талера” (Брэст) і г.д. Хіба што гэта разглядаць як клопат пра заўтрашні дзень. Бо два дні беларускасці дзеля паездкі і выступу ў Польшчы могуць стаць пачаткам уласнага нацыянальнага ўсведамлення. Сёння на артыста паўплывалі людзі Беласточчыны, якія захавалі сваю беларускасць, нягледзячы на польскі прэсінг, а заўтра іхняе мастацтва пачне заклікаць да свядомага жыцця суайчыннікаў у Віцебску, Бярэсці, Менску.


Запяі нам, Вальжына, песню не чужую.



Справа, зразумела, не толькі ў нацыянальнай самасвядомасці. Бо гэта ж музычны фестываль. Але, як кажуць адэсіты, дзве вялікія розніцы — выдатнае гучанне саксафона сярод лубачнай беларускасці ансамбля “Палац” або непараўнанае пяянне гітары В.Кораня сярод палымяных роздумаў “Уліса” пра лёс Бацькаўшчыны тады, “калі імперыя знікне”.

Я ўжо даўно збіўся з ханалогіі падзей, дый балазе. Варта толькі дадаць, што глыбока за поўнач завяршылі першы дзень “Крама” і “Мроя”. Бачыў на многіх мясцовых фэстах, як сонная публіка пачынае разыходзіцца, ледзь міне час “Калыханкі”. Тут жа моладзь да трох гадзін ночы падпявала завадныя супер-гіты “Я — рок музыкант” ды “Бяжы, бяжы, хлопец”, а старыя дзядзькі-пенсіянеры з задавальненнем пілі піва пад зухаватыя акорды беларускага рок-н-рола.

“Мрою” тут ведаюць даўно і цудоўна, таму і невыпадкова яе, як зорку, паставілі пад завязку. Але і папярэдні выступ “Крамы” прынёс прыемнае адкрыццё. Гурт уразіў нават шавіністычна настроеных палякаў, ад якіх перад тым чуў абразлівае: “Бялорусь хцэ до гуры, а пуйдэ до дупы”.

Зрэшты, шавінізму тут не трэба было баяцца, бо з развалам камунізму кожная краіна ўсё больш асэнсоўвае сябе маткай многіх народаў. Баяліся аднаго — дажджу. І калі ў першую ноч ён толькі крыху пакрапліў сасмагную глебу, дык другі канцэрт кожную хвіліну быў пад пагрозай зрыву.

Пад зычліва распасцёртай “басаўцамі” плашч-палаткай давяліся выступаць Вальжыне Цярэшчанцы. Але паляна не апусцела. Схаваўшыся пад парасонамі і ялінамі, а то і проста не зважаючы на марасню, людзі настойліва ўпрошвалі прыгожую гамяльчанку: “Запяі мне песню нашу, не чужую”. Гэта тое, чаго прагна жадала іхняя душа. Ды не толькі цудоўнай паэзіі Ларысы Геніюш, але і чароўнага голасу Вальжыны, якім шчодра надзяліў яе Бог.

Між тым не толькі старымі гітамі парадавала публіку В.Цярэшчанка. Яна прывезла на “Басовішча” шмат новых песень на вершы У.Караткевіча, Д.Бічэль-Загнетавай, на свае ўласныя тэксты. Шкада толькі, што яна не ўдзельнічала ў конкурсе, а была госцем фестывалю.

Не ведаю, ці зразумела публіка бард-рок “Новага неба”, але прырода злітавалася над калектывам — дождж прыпыніўся. Затое Алесь Камоцкі прымусіў слухачоў памокнуць пад дажджом, бо яго тут любяць і заўсёды чакаюць. Публіка літаральна зліваецца са спеваком пад час песні. І яна разумее, што запыт “Чуеш ці не, што спявае Камоцкі?” не проста дзеля рыфмы, а дзеля ўмацавання гэтага паяднання.


Бачыш ці не — то ж спявае Камоцкі.

Цалкам не пашчасціла гуртам “Дзіда” і “Уліс” — пачаўся сапраўдны лівень. Яны паказалі свой клас на наступны дзень, але неспрыяльныя ўмовы асвятлення на крытай сцэне прымусілі “Дзіду” адмовіцца ад эфектных піратэхнічных эфектаў, якія хлопцы з сабой прывезлі. І ўсё ж гурт адчуў, што ў Польшчы больш фанатаў трэш-металу і яны больш актыўныя. Забягаючы наперад зазначу, што з дапамогай новых сяброў “Дзіда” стала гуртам невыязным. Невядома, ці пачуем мы яшчэ калі сапраўдны беларускі трэш, але любое мастацтва квітнее там, дзе яго разумеюць. Пакуль “Дзіда” засталася ў Польшчы, мае запрашэнні на выступы ў Ярацыне, у Бельгіі... А гэта тое, чаго ім не хапала тут. І, на жаль, мала хто ўсвядоміць, што цяпер нам будзе не хапаць “Дзіды”.

Завяршыў фестываль 19 ліпеня ўвечары канцэрт лаўрэатаў і дыпламантаў. Выступіла “Крама” — адкрыццё фестывалю, лаўрэат Гран-пры (6 000 000 злотых) і трэцяга прыза папулярнасці паводле апытання публікі. Выступіў Шаўкевіч, які абскакаў усіх бардаў. Выступіў “Уліс”, які найбольш спадабаўся публіцы, а таксама захапіў авангарднымі ідэямі мастака Лявона Тарасевіча (быў на “Басовішчы” ягоны ўласны прыз). Выступіла і каманда “Сэвэн Бі”, за якую гледачы падалі нямала галасоў. Выступіў “Мясцовы час” за ўдалае кампанаванне беларускіх супер-гітаў.

III фестываль “Басовішча” завяршыўся, і... суверэнная Беларусь зноў страціла кавалак сваёй гісторыі. Імпрэзу здымала Польскае тэлебачанне, Беластоцкае тэлебачанне, прыватныя відэастудыі. Літоўскае тэлебачанне з удзячнасцю да нас, што прыхапілі на мяжы частку іхняй групы, зрабіла некалькі сюжэтаў. Ды яшчэ тэлевізійны “Крок” запісаў некалькі фрагментаў. Здаецца, для фанатаў дастаткова (тым больш, што на імпрэзе прадаваліся і відэакасеты з ранейшых “Басовішчаў”), але дзяржаве, калі яна падымецца ад сну, будзе сорамна і няёмка.


Аўтар авангардных мелодый Вячка Корань (“Уліс”).

Бо нельга казаць пра суверэнную дзяржаву, калі ейныя грамадзяне адданыя ва ўлонне выключна чужых мас-культур.

Хтосьці яшчэ лічыць сваю мас-культуру не вартай увагі, не здольнай захапіць.

Што ж: чытайце, глядзіце і мо калісьці і ў вашыя вушы праб’ецца свая музыка. Свая не паводле зямляцтва, а паводле духу.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.
Фота У.Панады.

Беласток-Гарадок-Менск.


Відэастужка з “Мроі” дазволіць пагрэць рукі... палякам.



*Гіт-парад*

# ЗАПЯІ МНЕ ПЕСНЮ

**Літаральна ў мінулыя выхадныя, 26 ліпеня, на каротківх хвалях (25, 31, 41 і 49 метраў) выйшаў у эфір дзевяты выпуск сумеснага беларускага гіт-парада "ЧЗ-Liberty", агляд пошты якога мы і прапануем зараз вашай увазе.**

Упершыню перамогі дамогся прыгожы пол — лідэрам стала вядомая бардаўская спявачка з Гомеля Вальжына Цярэшчанка, здымак якой мы тут і змяшчаем. Наш слухач і чытач з Оршы Яўген Максімаў невыпадкова назваў Вальжыну "каралевай бардаўскай песні". Прычым публіку аднолькава захапляюць і ейныя песні паводле твораў беларускіх паэтаў (Ларысы Геніюш, Яна Чачота, Дануты Бічэль-Загнетавай) і на ўласныя тэксты.

Прачнуліся і беларусы з Масквы. Валянціна Збанкевіч са сталіцы братняй дзяржавы піша: "Сядзіш тут сярод чужых людзей і слова роднага не пачуеш. Адно супакойвае, што ведаю: кожны месяц на хвалях "Свабоды", якія далятаюць і да нас, можна пачуць паўгадзіны добрай беларускай музыкі, а сярод іх — пару хвілінаў зойме мая каханая душка Алесь Камоцкі. Калі слухаю паўтор гіт-парада раніцай, дык нібыта сябе ўяўляю гаспадыняй ранішняй зоркі, пра якую ён спявае".

Грунтоўна праналізаваў наш гіт-парад вядомы музычны крытык і ўдзельнік гіт-парада Анатоль Мяльгуй. Ён прыйшоў да цікавых высноў: "Беларусь — унікальная краіна. Тут фальклор настолькі жывы, што яшчэ сёння можа браць на сябе і функцыі сучаснай эстрады. Сапраўднымі супер-гітамі становяцца беларускія народныя песні ў выкананні "Песняроў", Барткевіча, Данчыка".

Цікавую заўвагу зрабіў нам прыхільнік бардаўскай песні з Новалукомля Сяржук Каранеўскі: "Не першы раз сустракаю ў вашых выпусках песню "Які ж я беларус?" у выкананні віцебскага ансамбля "Грамада". Добрая песня, някепскі ансамбль, але ж твор мае свайго аўтара, які сам жа з'яўляецца і выканаўцам, — менскі бард Зміцер Сідаровіч. Чаму вы ніколі не выпускаеце яго?".

Адно можам сказаць Сержуку: мы толькі падсумоўваем балы і не маем права распараджацца галасамі ўдзельнікаў. А ў тым, што мы не ігнаруем творчасць самога З.Сідаровіча, ты можаш пераканацца, разгарнуўшы "Нотныя аркушы" № 18 (189) за лістапад мінулага года і № 10 (200) за ліпень сёлетняга.

Зразумела, мы цытавалі тут толькі тыя лісты, у якіх згадваецца пра тых або іншых выканаўцаў чарговай гарачай беларускай дзесяткі. А выглядае яна наступным чынам:

1. "Бюракрату з Дому ўраду" (муз.і сл.В.Цярэшчанка). Вальжына Цярэшчанка.
2. "Гаспадыня ранішняй зоркі" (муз.і сл.А.Камоцкага). Алесь Камоцкі.
3. "Крупнік" (муз.і сл.С.Сокалава-Воюша). Сяржук Сокалаў-Воюш.
4. "Харашуха" (беларускі фальклор). Данчык.
5. "Які ж я беларус?" (муз.і сл.З.Сідаровіча). "Грамада".
6. "У музеі" (П.Піскуноў — М.Скобла). "Тутэйшыя хлопцы".
7. "Настальгія" (муз.і сл.С.Хамякова). "Ален".
8. "Правінцыя" (муз.і сл.В.Шаўкевіча). Віктар Шаўкевіч.
9. "Народжаны тут" (І.Варашкевіч — З.Лукашук). "Рокіс". 10. "Мроя"

Усім, хто прыняў удзел у вызначэнні лідэраў, вялікі дзякуй. І не забывайце, што гіт-парад "ЧЗ-Liberty" — пастаяннадзеючы, таму адразу, не адкладваючы ў глыбокую скрыню, прыгадвайце, што пачулі новага з беларускіх песень, што хочацца пачуць яшчэ раз са старога. Запісаўшы свае прапановы на паштоўку, адашліце яе або ў "Чырвоную змену" (220041, Менск, Беларусь, праспект Францішка Скарыны, 77), або на адрас Radio Liberty, postfach 221425, D-8000, Munchen, Germany.

Да новых сустрэч у эфіры і на старонках нашай газеты, сябры!

**Вінцук ГУНЕНКА.**
**Фота С.КОВАЛЯ.**



*Спяваем па-беларуску*

# Даўняя казка

Музыка Алега Паўлёнка    Словы Уладзіміра Жылкі



Зацвілі твае вочы між тлуму,
І, здаецца, твой стан мільгануў,
Перарваліся ніткаю думы,
Даўні смутак ціхутка крануў.

Быццам ветрык, збудзіліся згадкі,
У жыцце ветрык, драмаўшы між хваль;
Закружыліся лёгка, без звадкі,
І памкнулі ў блакітную даль.
РЭФРЭН: Даўняя казка,
Даўняя, даўняя
Даўняя казка.

Стала дзіўна, што годы так шпарка
Прашумелі, бы ўвосень лісты,
Жоўтым лісцем, алеямі парку
І ляглі, як смуга, на кусты.

Нагадалася даўняя казка...
Збавіў нехта дарэшты яе,
Але з попелу дзён кволай ласкай
Памяць даўняга міла ўстае.
РЭФРЭН
Нібы сонцам зямля пасля буры,
Я асвечан маім пачуццём,
Нікне хмарнасць на твары пануры́м,
І вясёлкай я звязан з жыццём.

Як вясенняе ранне без суму,
Далікатны настрой агарнуў...
А ўсяго: твае вочы між тлуму
І твой стан, мне здалося, мільгнуў.
РЭФРЭН.



*Фанатэка*



## "Ю2" "Дрэва Джошуа" Айлэнд, 1987

Гісторыю стварэння гэтага ірландскага рок-гурта наш чытач знойдзе ў "Чырвонай змене" за 27 студзеня 1990 года, калі мы анатавалі ягоны альбом "Кастрычнік" (1981). Зараз – працяг яе.

Да нашага шырокага слухача дайшла толькі адна кампазіцыя "Ю2" – "У гонар кахання", якую фірма "Мелодыя" ўключыла ў зборны двайны альбом "Greenpeace". Уяўленне, мабыць, маглі дапоўніць шэраг відэакліпаў, час ад часу трансліраваных Беларускім тэлебачаннем. Гэтага, зразумела, недастаткова для зоркі такога маштабу, як "Ю2". Таму цяпер мы вырашылі дапоўніць вашыя веды анатацыяй на адзін з лепшых альбомаў дублінскага калектыву – "Дрэва Джошуа". Дарэчы, кружэлка прысвечана дачасна адышоўшаму калезе музыкаў Грэгу Кэралу (1960-1987).

Дыск запісваўся наступным складам: Бано (Пол Г'юсан) – вакал, Зэ Эдж (Дэйв Эванс) – гітара, Адам Клэйтан – кантрабас, Лэры Мален-малодшы – бубны. А прадзюсерам разам з Даніэлем Лэнойсам быў вядомы паплечнік Дэйвіда Боу і бацька новай хвалі Браян Іно.

З праграмай гэтага альбома ў 1988 годзе ансамбль "Ю2" рушыў у канцэртнае турнэ па Амерыцы, якое потым склала асноўны матэрыял для фільма "Грукат і звон".

Праграму кружэлкі складаюць адзінаццаць кампазіцый аўтарства ўдзельнікаў гурта: "Калі вуліцы не мелі імёнаў", "Я ўсё яшчэ маю падставы шукаць", "З табою або без цябе", "Куля сярод яснага неба", "Пакуль падобны на імклівага", "Чырвоны ўзгорак гарняцкага пасёлка", "У боскай краіне", "Падарожжа цераз твой дрот", "Узвышша аднаго дрэва", "Выйсце", "Маці знікнення".

Стыў Лілівайт, які прадзюсіраваў ранейшыя альбомы "Ю2", дапамагаў і тут у мікшыраванні ледзь не паловы твораў дыска. А запісваўся і мікшыраваўся ён у дублінскай студыі "Windmill Lane".

Мастацкую аздобу вокладкі альбома зрабіў Стыў Эйверыл, выкарыстаўшы здымкі Антона Кобрыйна.

На жаль, рок-гурт "Ю2" выконвае свае песні не на ірландскай, а на ангельскай мове, затое ў афармленні дыска, як і ў самой музыцы, адчуваецца любоў да роднай Ірландыі, да ейнай прыроды, ейных легенд і традыцый.



## "ЛЭД ЗЭПЕЛІН" "ЛЗ-4" Атлантык рэкордс, 1971

Калісьці айчынным фанам гэтага класічнага ўзору гард-рока даводзілася задавальняцца толькі зборным альбомам "Лесвіца ў неба", які з пачаткам перабудовы, нарэшце, адшкадавала ім фірма "Мелодыя" (глядзіце нашую анатацыю ў "ЧЗ" ад 4 лютага 1989 года).

Цяпер (не прайшло і дзесяцігоддзя з дня распаду калектыву) мы дачакаліся стабільнага паступлення на наш рынак разнастайных альбомаў гэтага гурта. Сярод іх і чацвёрты альбом, які паўторна падараваў нам бессмяротную кампазіцыю "Лесвіца ў неба".

Нам зноў няма патрэбы знаёміць чытачоў з падрабязнасцямі біяграфіі ансамбля, бо зрабілі гэта ў 193-м выпуску "Нотнага аркуша", таму больш можна пагаварыць пра песні, пра саму кружэлку, пра выдаўцоў.

Беларусь, якая не мае сваёй аўдыёіндустрыі, вымушана карыстацца падарункамі... усіх, каму не лянота заграбаць грошы без патрэбнай на тое ліцэнзіі. Вось і "Лэд Зэпелін-IV" разам з пятым альбомам "Хаты святых" (ды яшчэ знітаваныя адною кашуляю ў нейкае міфічнае нікому невядомае 2 ЛП) прэзентавала нам маладая санкт-пецярбургская фірма "Антроп" (назва паходзіць ад імя яе заснавальніка Андрэя Трапілы, былога гукарэжысёра піцерскага рок-клуба). Як жа маладыя монстры шоу-бізнесу рызыкуюць выдаваць без ліцэнзіі цэлыя альбомы, хоць кожны заходні дыск папярэджвае аб суровай кары за падобнае? Па-першае, трэба памятаць, што мы толькі будуем прававую дзяржаву, і пакуль ніякія існуючыя цывілізаваныя законы для нас не пісаныя. Па-другое, фірма "Антроп" пайшла на маленькі абарончы падман, зрабіўшы на дыску прыпіску: "Запіс па трансляцыі".

Тым не менш рызыка была, але і было дзеля чаго рызыкаваць: у свой час "Лэд Зэпелін" паставіў нямала рэкордаў па колькасці прададзеных кружэлак, па інтэнсіўнасці распаўсюджвання білетаў на канцэрты. І ўсё гэта – пры відавочнай замкнутасці і аскетычнасці музыкаў.

Невыпадкова, відаць, музычны агляддальнік часопіса "Обзэрвэр" Тоні Палмер назваў "Лэд Зэпелін" найлепшым ансамблем 70-х гадоў па выкананні рок-н-рола, найбольш выдатным пасля "Бітлз".

У чацвёрты альбом калектыву ўваходзіць яшчэ адзін сусветна вядомы гіт "Чорны сабака", а таксама кампазіцыі "Вечная бітва", "Рок-н-рол", "Скачок з туманных вышынь", "Чатыры ...", "Паездка ў Каліфорнію", "Калі руйнуецца дамба".



## "ІСУС ХРЫСТОС СУПЕРЗОРКА" 2ЛП ЕМІ, 1970

Як пісаў В.Панэк у сваім "Малым слоўніку папулярнай музыкі", "найбольш вядомым узорам у жанры рок-оперы з'яўляецца, бадай, "Ісус Хрыстос суперзорка", аўтары якой Цім Райс (лібрэта) і Эндру Лойд Уэбэр уважаюцца цяпер за найбольш папулярных стваральнікаў сцэнічных рок-твораў".

Дазволім сабе яшчэ адну цытату, якая сведчыць аб поспеху анатуемага твора. Гэтым разам з кнігі Л.Доружкі "Панарама папулярнай музыкі". Чэшскі музыказнавец піша: "Рок-опера "Ісус Хрыстос суперзорка" была задумана і створана з тым разлікам, каб распаўсюджваць ейную музыку праз грамзапіс. І толькі за 1970 год гэтыя 2 ЛП былі прададзены ў колькасці 2000000 экземпляраў. Па парадзе Роберта Стыгвуда амерыканскі рэжысёр Том О'Горган зрабіў пастаноўку рок-оперы на Брадвеі, прэм'ера якой прайшла 12 кастрычніка 1971 года з поўным аншлагам. Яшчэ большы поспех выпаў на долю фільмавай версіі твора, зробленай у ЗША ў 1974 годзе".

Гэта далёка не поўны пералік трыумфальнага шэсця "...суперзоркі" па краінах і часінах. Не далей як у студзені 1989 года мы рэцэнзавалі чарговае дыскаграфічнае выданне твора, якое ў сярэдзіне 80-х зрабіла фірма "Авеню-рэкордынг" з удзелам хору і аркестра пад кіраўніцтвам Алана Кадзі (экс-"Тарнадас").

І вось новая піцерская фірма "Антроп" пад патранатам Прадзюсерскага цэнтра рок-н-рольных прыходаў адзінай евангелічна-лютэранскай царквы Расіі рызыкнула без усялякай ліцэнзіі вярнуць нас да самага пачатку трыумфальнага шэсця рок-Хрыста, падараваўшы (хоць і ў жахлівай шэрай вокладцы) дакладную копію першага выдання, якое разам з іншымі сваімі вартасцямі прываблівае ўвагу і выдатным кантынгентам выканаўцаў. Гэта такія славутыя імёны, як Ян Гілан (вакал), Мурэй Гэд (вакал), Айвон Эліман (вакал), Пітэр Робінсан (клавішныя), Джон Маршал (бубны), Крыс Спэдынг (гітара) і г.д.

Дарэчы, гэта не першае выданне арыгінальнай версіі рок-оперы "Ісус Хрыстос суперзорка" на тэрыторыі былога СССР. У 1991 годзе маладая фірма "Крокус" распачала гэтую, як бы мовіць, добрую традыцыю, але прадукцыя гэтай фірмы ў Беларусі не распаўсюджвалася.

*Рэцэнзія*

# Крылы ўдасканалення

## З нагоды апошняй ТЮГаўскай прэм'еры

Пакуль што беларускаму дзіцяці ніяк не выпадае пачувацца паўнавартым. Хоць бы таму, што спіс з Андэрсена, П'еро, братоў Грым, Гофмана, Дрыскала, Клавэля, Жыткова, Свіфта, Твэна, дагэтуль не вядомых яму, пагражае расцягнуцца на цэлую паласу. Вядома, нешта некалі ў беларускіх перакладах выходзіла, ды трэба быць не абы-якім бібліяфілам, каб пранесці праз гады ў пакаленні друкаваныя па-беларуску гісторыі пра Чыпаліну ці Чырвоную Шапачку (паводле апошніх версій — Чырвонага Каптурыка). Вось і Дональду Бісету застаецца самотна шнуравацца ў "ганаровым" шэрагу,— Бісетавы казачныя гісторыі ўсё яшчэ па-за чытанкамі беларускамоўнага дзіцяці. Апошняе спадзяванне — на тэатр, а менавіта на Рэспубліканскі тэатр юнага гледача, дзе, на шчасце, яшчэ не забыліся чытаць і ажыццявілі пастаноўку спектакля "Крылы Ікара" з насельнікамі Бісетавай казачнай краіны. Бясспрэчна, "зорка" ТЮГаўскага спектакля — В.Кавалерава. Не рызыкнула б перахрысціць яе работы "пераканаўчым псіхалагічным пераўвасабленнем" ці "ўвогуле арганічным існаваннем у прапанаваных абставінах". Відавочна, актрыса зыходзіць са сваіх сцэнічных магчымасцей, але нават тое, што традыцыйна не лічыцца акцёрскімі вартасцямі, у В.Кавалеравай даўно ўжо выдае на своеадметнасць таленту. Шэраг займальных гісторый прадставіць нам казачнік Бісет у выкананні С.Кулікоўскага — абаяльны, дасціпны... завучанымі досціпамі. Ролі, на жаль, бракуе імправізацыйнасці, трапнасці акцёрскіх ацэнак. Перадусім спектаклю бракуе кідкага, уражлівага сцэнаграфічнага вырашэння, якое б ствaрала вобраз спектакля, а не проста пазначала месца дзеяння.

Не трэба было спяшацца гэтаму музычнаму спектаклю надаваць ранг мюзікла: у традыцыйным мюзікле, скажам шчыра, аддаецца перавага натуральным, а не фанаграмным галасам. Зразумела, што спяваць на сцэне гэтым разам не выпадала, але, на жаль, музычныя ўстаўкі ўсё адно як прычэпленыя да таго ці іншага эпізоду.

Спакусліва было б павохкаць пра гэты ТЮГаўскі спектакль: маўляў, такога свята ў тэатры даўно не было.

Аднак падобна на тое, што "крыльцы" пастаноўкі склеены не самым трывалым чынам. Акцёрская захопленасць ды імпэт — самы далікатны "клей" для сапраўднага тэатральнага відовішча.

**Ж.ЛАШКЕВІЧ.**

*Новыя выставы*

# ВЯРТАННЕ НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ

**У Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі адкрылася выстаўка карцін вядомага беларускага мастака Вячаслава Целеша – майстра жывапісу і графікі. Ён жыве і працуе ў Латвіі.**

У гісторыі сусветнай культуры ёсць шмат прыкладаў, калі чалавек, па нейкіх прычынах адарваны ад сваёй Бацькаўшчыны, нацыянальнай культуры, поўнасцю растварaецца ў культуры іншага народа. Аднак ёсць і такія прыклады, калі ён не можа і не хоча зусім адарваць свае карані, бо яны жывяць яго творчасць, узбагачаюць духоўна. Адзін з такіх – Вячаслаў Целеш, беларускі мастак.

Нарадзіўся В.Целеш у 1938 годзе ў п.Краснасельскі (вес. Краснае Сяло), што на Гродзеншчыне. Моцная любоў да малявання ў школьныя гады і вызначыла яго жыццёвы шлях – ён прысвяціў сябе мастацтву. Але беларуская правінцыя не давала яму магчымасці набыць веды для авалодання законамі малюнка і жывапісу. І толькі калі ў 1961 годзе В.Целеш быў прыняты ў мастацкую студыю А.Петэрсана ў г.Рызе, стала зразумеў, што толькі прафесіянальная падрыхтоўчая праца і мастацкае асяроддзе дадуць магчымасць выйсці на гэты шлях і прынясуць добрыя вынікі. У 1964 годзе В.Целеш паступае на падрыхтоўчыя курсы Латвійскай акадэміі мастацтваў, дзе працуе пад кіраўніцтвам М.Карнецкага. Яго ўпартасць і адданасць працы прыносяць плён – у 1970 годзе ён стаў студэнтам педагагічнага аддзялення акадэміі.

Жывапісным працам В.Целеша ўласцівы рэальнасць, матэрыяльнасць рэчаў і танальная разнастайнасць навакольнага свету. Калі пасля заканчэння акадэміі ў яго карцінах можна было заўважыць найбольшы ўплыў традыцый латышскага жывапісу, то ў апошніх працах палітра становіцца ярчэйшай, колер больш дэкаратыўным, што характэрна для яго беларускага ўспрыняцця колеру.

Мастак імкнецца выявіць сябе і ў гістарычнай карціне на тэму даўніны і гісторыі беларускага народа. Адно з асноўных месцаў тут займаюць вобразы славутых людзей Беларусі – гэта першадрукар і медык Францішак Скарына, пісьменнік і драматург В.Дунін-Марцінкевіч, паэты Максім Багдановіч і Янка Купала.

Аднaчасова В.Целеша захапляе і графіка, у якой ён больш акцэнтуе складаную рытміку чорна-белых плям і ліній. Так, у 1983 годзе нарадзіўся цыкл "Касмічныя шляхі", прасякнуты фантазіяй мастака, а ў 1989-1990 гадах сатырычны цыкл "У цэню часу трыумфаў". Асобнае месца ў яго творчасці займае экслібрыс, які прываблівае не толькі гармоніяй плям і ліній, але і цікавай кампазіцыяй, у якой найменшымі сродкамі раскрываецца спецыфіка кніжнага знака і адпаведнасць інтарэсам уладальніка кожнай графічнай мініяцюры. Працы Вячаслава Целеша экспанаваліся не толькі на рэспубліканскіх выставах Латвіі і Беларусі, ён удзельнік вернісажаў у Эстоніі, Летуве, Фінляндыі, Швецыі, Даніі, ЗША і Канадзе. Лірызм і настраёвасць твораў В.Целеша прываблiваюць мецэнатаў і аматараў мастацтва, таму яго пейзажы, нацюрморты, партрэты, графічныя лісты і экслібрысы былі набыты і захоўваюцца ў зборах Латвіі, Беларусі, Расіі, ЗША і Канады.

Свае веды мастак перадае сваім суродзічам у Рызе – Беларускай дзіцячай мастацкай студыі "Вясёлка". Ён з'яўляецца старшынёй Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар".

**Ю.ШАСТАК.**

*70 год на сцэне*

# Непараўнальная Стэфанія



Ужо склалася добрая традыцыя праводзіць вечарыны ў "Беларускай хатцы". Тут няма такой залы, як у Доме літаратара, але гэта і не трэба. Пад гасцінным дахам збіраюцца сябры, гучаць вершы, спевы, смех, ззяе зорка неўміручай батлейкі.

Як і калісьці, тут збіраюцца маладыя беларускія паэты і пісьменнікі. На гэты раз прыйшлі сябры літаратурнай суполкі "Крыніцы", каб павіншаваць народную акцёрку Беларусі Стэфанію Станюту з 70-годдзем выхаду на сцэну. Ігар Карповіч нават прысвяціў ёй адзін са сваіх "Менскіх санетаў" — "Стэфанія".

*Стэфанія! Стэфанія! Імя дарагое народу Белай Русі,*
*Бо яго носіць жанчына, якую можна*
*раўнаць з прыгожай ружай.*
*Ганарацца французы Сарай Бернар,*
*ёсць вялікая Анджапарыдзе ў Грузіі...*
*Дзякуй, Бог! Ты даў нам жэмчуг — Стэфанію Станюту!*

Прачыталі свае творы Святлана Багданкевіч, Алесь Дзітрых, Юлія Алесніна, Сяржук Мінскевіч, выканалі песні Валодзя Клімовіч і Едрусь Акулін.

Цеплыня і шчырасць змагаліся з водарам кветак за права валодаць пачуццямі прысутных. Напэўна, яны перамаглі, бо раптам нарадзілася ідэя без усялякай падрыхтоўкі сыграць некалькі сцэн з купалаўскага "Раскіданага гнязда". Без усялякіх дэкарацый аматары і найлепшы прафесіянал за некалькі хвілін саткалі цэлы свет мастацтва.

Усцешыла, што гэтая вечарына адбылася менавіта ў "Беларускай хатцы". Не зважаючы на ўсе ліхалецці, перамены ды крытычныя часы гісторыі, наш народ застаўся са сваімі нацыянальнымі імкненнямі, захаваў сваю нацыянальную жыццёвасць ды культурную самабытнасць. Беларусь засталася краем вялікіх паэтаў, пісьменнікаў і выдатных майстроў сцэны, такіх, як Стэфанія Станюта. Нам ёсць чым ганарыцца, бо ў нас ёсць такія таленты.

**Паўлюк Быкоўскі.**



**Аказваецца, адбіць чужога мужа не складае вялікай цяжкасці. Трэба толькі сказаць яму вельмі шчыра і выразна:**

# “Я ЦЯБЕ РАЗУМЕЮ...”

Прызнаемся: гэта праблема так ці інакш хвалюе кожнага з нас. Старая, як свет, вечная, як неўміручасць, – здрада любімага чалавека. Сёння мы прапануем вам размову на гэту тэму з псіхолагам Мінскага гарадскога сексалагічнага цэнтра Тамарай Аляксееўнай СОТНІКАВАЙ.

– Тамара Аляксееўна, асабіста я сутыкалася з двума азначэннямі такой няпростай з'явы, як нявернасць, здрада, распуста. Першае – біблейскае: а я кажу вам, што кожны, хто глядзіць на жанчыну пажадліва, ужо пралюбадзейнічаў з ёю ў сэрцы сваім. Другое, скажам так, жыццёвае. Яно вынікае з гісторыі, што расказаў мне сусед, сталы ўжо чалавек. Аднойчы яго дачка, маладая замужняя жанчына, забрала ўсе свае рэчы з кватэры мужа і вярнулася да бацькоў. На просьбу апошніх растлумачыць свае паводзіны кінулася ў істэрыку: "Ён мне здрадзіў!". "Як здрадзіў?", – удакладніла маці. "Пайшоў з дому вечарам, а прыйшоў раніцай". "А-а! – узрадаваўся бацька. – Дык ён усё ж вярнуўся? Якая ж гэта здрада? Здрада – калі пайшоў і не прыйшоў. А гэта... абмен вопытам і павышэнне кваліфікацыі". Вось такая жыццёвая мудрасць. А якое азначэнне нявернасці далі б Вы?

— Ведаеце, ваш сусед меў рацыю... Ну а калі сур'ёзна — перад тым, як ісці да вас, зазірнула ў слоўнік і знайшла там такое простае азначэнне. Здрада — парушэнне вернасці каму-небудзь ці чаму-небудзь (сябру, дому, мужу). Няверны — той, каму нельга верыць, хто парушае свае абавязкі перад кім-небудзь. Вернасць — стойкасць і нязменнасць у сваіх пачуццях, адносінах, у выкананні абавязку.

І тут узнікае адно пытанне: ці могуць пачуцці заставацца нязменнымі, калі чалавек сам змяняецца, калі змяняецца якасць шлюбу? Шлюб сёння разумеецца зусім не так, як раней, і адносіны да яго іншыя — нават да поўнага знішчэння, адмаўлення. А так званыя "шведскія" сем'і? Не дзесьці там, а ў нас. І гэта сама рэальнасць, з якой трэба мірыцца. Яе неабавязкова пераймаць, але можна пастарацца зразумець. І падобныя праблемы "вылупліваюцца" адна за адной па меры таго, як узрастае "колькасць" свабоды.

Некаторыя ўсё жыццё праводзяць у пагоні за рамантычным пачуццём і... увесь час вяртаюцца на кругі свае. Шлюб для іх завяршаецца адначасова з завяршэннем рамантычнага кахання. Далей — развод і пошукі новага пачуцця. Новы шлюб. І зноў — страта вастрыні адчуванняў. Гэта можа працягвацца бясконца. Таму што няма вечнага рамантычнага кахання. І той, хто пастаянна шукае яго, — памыляецца. Бо ён шукае тое, чаго быць не можа, і ўсё жыццё ганяецца за ілюзіяй. Само паняцце — стан кахання — не статычнае. Яно змяняецца колькасна і якасна. І не трэба шукаць чагосьці іншага, лепш паспрабаваць удасканаліць тое, што ёсць.

Шлюб якраз і неабходны нам для таго, каб навучыцца жыць хаця б з адным чалавекам, навучыцца прымаць яго такім, які ён ёсць, дараваць яму і праз гэта самім удасканальвацца. Вядомы нямецкі сацыялгігіеніст Рудольф Нойберт у сваёй "Новай кнізе пра шлюб" параіў тым, у каго вастрыня пачуццяў крыху прытупілася, паспрабаваць... закахацца адзін у аднаго другі раз. Безумоўна, калі людзі бачацца кожны дзень на працягу 10-15 гадоў, нешта незваротна страчваецца, але нешта і набываецца. І калі чалавек мысліць глыбока, ён абавязкова знойдзе ў іншым тое, што зможа яго прыцягнуць, захапіць. Але тут павінна быць жаданне і імкненне двух бакоў.

– З чаго ж узнікае нявернасць? Хто часцей здраджвае і хто больш востра перажывае здраду – мужчыны ці жанчыны?

— Раней, яшчэ да таго, як трапіць у сексалагічны цэнтр, я думала, што мы, жаночая брація, у гэтым сэнсе больш пакрыўджаныя. Сёння мой вопыт падказвае, што няшчасных мужчын не менш, чым жанчын. І яны так моцна перажываюць, пакутуюць. Вось не чакала ад іх такіх глыбокіх эмацыянальных узрушанняў!

Многія праблемы (вы ведаеце) узнікаюць на падставе таго, што той ці іншы бок не атрымлівае сексуальнага задавальнення. Потым, паспытаўшы "гэта" з кім-небудзь яшчэ, ён ці яна пачынаюць адчуваць нейкую раздвоенасць. Ідзе барацьба паміж пачуццём абавязку і прынцыпам задавальнення (калі нагадаць Фрэйда). Ці варта караць за такую здраду?

Уявіце: чалавек жыў і быў абдзелены адным з самых моцных у жыцці пачуццяў. А можа, не так ужо і дрэнна, што ён нарэшце вырашыў для сябе гэтае пытанне? Ва ўсялякім разе, я заўсёды імкнуся зразумець кожнага ў такой сітуацыі і дакапацца да прычын адсутнасці сексуальнага задавальнення ў сям'і. "Капаем" мы разам і даволі глыбока — аж да самога дзяцінства. Сустракаемся неаднойчы, размаўляем на розныя тэмы, якія, на першы погляд, зусім не датычацца асноўнага прадмета. І ў выніку гэтых размоў высвятляецца, што сямейна-сексуальная дысгармонія мае свае вытокі ў падлеткавым узросце, у дзяцінстве, у адносінах паміж бацькамі, у перагібах і перакосах выхаваўчага працэсу...

Пры разборы сітуацыі стараюся дапамагчы чалавеку вызначыць прычыну дысгармоніі, знайсці выхад з тупіка. Але заўсёды пакідаю за сваім пацыентам права выбару. Добра, калі муж і жонка пачынаюць усведамляць сапраўдныя прычыны сваіх учынкаў. Тады паціху згладжваецца, сціраецца іх агрэсіўнасць, варожасць, непрымірымасць. Усё становіцца на свае месцы.

– Ну, а калі ў сексуальным плане ў сям'і ўсё "о'кей", а нехта з іх – ці абодва – усё роўна ходзяць "на бок"? Цытую свайго жанатага знаёмага: усіх жанчын мець нельга, але да гэтага трэба імкнуцца. Што Вы скажаце?

— Што такое выказванне больш характэрнае для мужчыны і што мужчына і жанчына — істоты ва ўсіх адносінах абсалютна розныя. Мужчына — так гістарычна склалася — заўсёды быў як бы па-за сям'ёй: паляваў, здабываў ежу, ахоўваў жыллё. Жанчына — істота больш хатняя, плюс — больш эмацыянальная. Яна ўспрымае мужа як нешта дадзенае ёй аднойчы і назаўсёды. Таму і здраду жанчына перажывае як трагедыю. Здаецца, вялікі італьянец Феліні сказаў пра мужчыну, што, калі ён і кахае жанчыну, адной яму ўсё роўна мала, і заўсёды хочацца чагосьці новенькага. А сучасная жонка з гэтым пагадзіцца не можа.

Так. Здаецца, у сям'і ўсё добра. Але нехта — муж ці жонка — шукае прыгод. Чаму? Я ўжо гаварыла, што адносіны ў шлюбе пастаянна мяняюцца. Кожная сям'я, якая праіснавала пяць год, мае патрэбу ў псіхатэрапеўтычнай дапамозе. Неабходна разбірацца, чаму той ці другі пры ўсёй спрыяльнасці сямейных адносін кідаецца ў "адзюльтэр". Бо прычына нявернасці на кожнай стадыі развіцця шлюбу розная.

Сучасная маладая сям'я прыкладна да пяці год сумеснага пражывання знаходзіцца на стадыі, якая ўмоўна называецца стадыяй барацьбы. Апошняя настае больш-менш хутка пасля стадыі рамантычнага кахання. Ружовыя акуляры, праз якія вы глядзелі на прадмет свайго абажання, пакрысе пачынаюць шарэць. Каханне набліжаецца да перыяду спаду. Тут няма нічога страшнага і ненатуральнага — спад характэрны для любой эмоцыі.

На пачатковым этапе стадыі барацьбы (ці канфліктаў) яшчэ ёсць адчуванне рамантызму, але муж і жонка пачынаюць ужо актыўную дзейнасць па перарабліванню адзін аднаго. І вельмі доўга падманваюць сябе менавіта таму, што спадзяюцца адзін аднаго перавыхаваць. А гэта немагчыма. Дарослы чалавек ужо даўным-даўно склаўся як асоба і не жадае, каб нехта праводзіў над ім эксперыменты. У рэшце рэшт, ён павінен мець права на хобі, на куфель піва з сябрамі, на "дзяўчатнік", калі гэта жанчына... Адмоўных эмоцый становіцца ўсё больш. На гэтым этапе звычайна і з'яўляецца жаданне збегчы ад "выхавальніка", здрадзіць яму, у выніку чаго і развальваюцца шматлікія сем'і. Магчымы варыянт, калі аднаму з маладых удаецца "падмяць" другога, узяць яго "пад абцас". Гэтыя сем'і ніколі не прыходзяць да кансенсусу, стадыя барацьбы цягнецца ў іх дзесяцігоддзямі, і ўсё жыццё яны спрабуюць нешта адзін аднаму даказаць.

У больш разумных сем'ях (на жаль, далёка не ва ўсіх) пасля стадыі канфліктаў муж і жонка пачынаюць прызнаваць правы адзін аднаго на асабістае жыццё, на нейкія сакрэты і жаданні. І добра, калі далей яны ўступаюць у адносіны супрацоўніцтва, узаемадзеяння, узаемадапаўнення. Муж і жонка аб'ядноўваюцца на падставе якой-небудзь агульнай ідэі, дзейнасці (будаўніцтва дачы, выхаванне дзяцей і г.д.). Здаецца, усё ёсць, усё ў поўным парадку і многіх можа задаволіць назаўсёды. Але не ўсіх. Аднойчы раніцай хтосьці (муж ці жонка) стомлены адгароджанасцю ад свету, прачынаецца і думае: "Бог ты мой, якая зялёная нуда, які сум! Усё манатонна і стэрэатыпна". А чалавек жадае, каб вобразы, падзеі змяняліся... У выніку — незадавальненне жыццём, пошукі чагосьці новага, адыход ад сям'і. У доме ёсць "цела", але няма душы... Зноў — тупік, з якога трэба шукаць выйсце, зноў магчыма здрада. Карацей кажучы, шлюб (калі вы хочаце, каб ён удаўся) — гэта пастаянная праца над сабой і выпрабаванне не для слабых... На пачуцці, на розум, на эмоцыі, на валявыя якасці.

Апошняя стадыя развіцця сямейных адносін — стадыя стабільнасці, або сумеснай творчасці, калі пара ўяўляе цікавасць не толькі адзін для аднаго, але і для іншых — выходзіць у свет, за межы сваіх уласных інтарэсаў і спраў. Але да гэтага, на жаль, даходзіць рэдка.

– А ці варта дараваць здраду?

— Безумоўна. Ісус Хрыстос настаўляў нас: не пралюбадзейнічайце. Але, ведаючы грэшную прыроду чалавека, ён гаварыў і аб дараванні. "Ибо если вы будете прощать людям согрешения их, то простит и вам Отец ваш Небесный, а если не будете прощать людям согрешения их, то и Отец Ваш не простит вам согрешений ваших". Пазашлюбныя адносіны былі, ёсць і будуць. Яны нарадзіліся адначасова з узнікненнем першай сям'і і маюць шматвяковую гісторыю. І ніхто гэтую праблему так і не вырашыў.

Толькі не трэба кідацца ў паніку. Перш за ўсё падумайце: чаму ён так зрабіў? Шукайце прычыну ў сабе. Задайце пытанне: што ён шукае такога, чаго ва мне няма? Радасці, суцяшэння, разумення? Ведаеце, адбіць чужога мужа (ці жонку) не складана. Трэба толькі сказаць вельмі шчыра і выразна: "Я цябе разумею". Вось вы сустракалі на вуліцы калі-небудзь такую пару: ён — прыгожы мужчына з цудоўнай фігурай, яна — нічога асаблівага, "шэрая мышка"? Сустракалі. І не маглі зразумець, што ён у ёй знайшоў. Адказ вельмі просты: ён знайшоў тое, што шукаў. З твару ж, кажуць, вады не піць.

– І ўсё ж такі, пакуль даруеш, міне поўны час. Як сябе паводзіць у гэты далёка не лепшы перыяд жыцця?

— Не ўчыняць скандалаў. Не папракаць. Не ставіць да сцяны і не прымушаць прызнавацца. Аднясіцеся да ўсяго па меры магчымасці спакойна. Сам факт выяўленай здрады — ужо стрэс. А ў падманутай "ахвяры" ўзнікае садысцкае імкненне мучыць грэшніка, які і без таго ўжо пакутуе, яшчэ больш. Той пачынае абараняцца, становіцца агрэсіўным. "Ахвяра" атрымліваецца ўдвая пакрыўджанай: як так, здрадзіў, яшчэ і зневажае! Як гэта ні парадаксальна, але "здраднік" павінен знайсці ў сям'і перш за ўсё камфортную, спакойную абстаноўку, каб мець магчымасць зрабіць правільны выбар. Гэта складана. Вы пацярпелі — і яшчэ павінны ствараць камфорт! Таму вырашыце адразу, што для вас больш важнае — сям'я ці ўласны гонар. Успомніце: магчыма, вы і самі не раз траплялі ў сітуацыю патэнцыяльнай здрады ці па меншай меры флірту.

Слёзы зробяць сітуацыю яшчэ больш невыноснай. Гэтым жанчына сябе зневажае. Накіруйце лепш сваю энергію на выяўленне сапраўднай прычыны здрады. Мякка, тактоўна, без напору даведайцеся, чаго недаатрымала ў сямейным жыцці ваша палова. (Усе патрэбы чалавека могуць задавальняцца ў сям'і). Не забараняйце яму (ёй) маленькіх радасцей, не абмяжоўвайце свабоды. Чым мацней і карацей будзе ланцужок, якім вы прывяжаце яго да сябе, тым далей збяжыць ваш спадарожнік, калі сарвецца. Не націскайце на яго. А зрабіце так, каб вас любілі і пры максімальнай свабодзе не хацелі ёю карыстацца. У мяне ёсць сяброўка, якая ўжо даўно выйшла замуж. У іх няма дзяцей, і, здавалася б, з цягам часу шлюб павінны быў развваліцца. Аднак атрымалася наадварот. Чаму? "Калі я адчуваю, што прамільгалася, — растлумачыла яна, — "адыходжу" ад яго на тыдзень-другі, займаюся сваімі справамі, даю яму поўную свабоду. І тут ён заўважае, што мяне няма побач, што яму мяне не хапае. І калі "вяртаюся", у нас зноў пачынаецца мядовы месяц".

– І вашу сяброўку зусім не цікавіць, чым займаўся муж у яе "адсутнасць"?

— Не задавай чалавеку пытанняў, і ты не пачуеш у адказ хлусні. На мой погляд, у жыцці няма праблем, ёсць толькі нашы адносіны да сітуацыі, эмацыянальнае ўспрыяцце нейкай канкрэтнай падзеі. Толькі нашы эмоцыі, нашы ілюзіі робяць гэту сітуацыю праблемай.

Так і са здрадай. У залежнасці ад таго, як на яе рэагуюць, яна ператвараецца або ў праблему, або ў інцыдэнт, які трэба зразумець, прыняць і дараваць, калі зможаце. У прынцыпе, якое мы маем права абвінавачваць чалавека ў тым, што яго спасцігла каханне? Пацярпіце, праявіце тактоўнасць, годнасць сваю — і муж (жонка) застанецца з вамі. Я хачу вярнуцца да самага першага вашага пытання. Той ваш сусед не памыляўся. Відаць, калі чалавек вяртаецца, дык гэта не здрада. Мужчына прачынаецца раніцай у чужым ложку і са здзіўленнем думае: як я сюды трапіў? Дзесьці вычытала фразу, што прасцей за мужчыну ў сексе могуць быць толькі граблі. Не паспеў замаячыць на даляглядзе прывабны "аб'ект", у мужчыны, прабачце, ужо пачынае нешта варушыцца ў штанах. Дык ці варта на такія рэчы рэагаваць? Тым больш — катэгарычна? Лепш пераключыцеся на сябе, свой знешні выгляд. Адна з парад: зварыце свежы чай ці рамонак, намачыце ў ім ватныя тампоны і пакладзіце на вейкі, утульна размясціцеся на ложку, выцягніце ногі і выкіньце з галавы ўсё, што вас непакоіць. 20 хвілін поўнай рэлаксацыі (расслаблення) штодзённа — і вы можаце варочаць горы, не тое што ўтрымліваць мужчыну.

– Я ўдзячна Вам за цікавую размову, Тамара Аляксееўна, і асабліва за шэраг каштоўных парад. У мяне засталося толькі адно пытанне: ці варта здрадніку "існі" з павіннай, інакш кажучы, першаму прызнавацца?

— Думаю, што не. Гэта якраз той выпадак, калі ваша шчырасць не будзе ацэнена па заслугах. Калі ж вы не можаце жыць без пакаяння, прыходзьце ў наш цэнтр. Тут вам абавязкова дапамогуць разабрацца ў пытаннях сексуальнай гармоніі. А яшчэ знайсці шляхі вырашэння канфліктных сітуацый у адносінах з бацькамі і дзецьмі, высветліць прычыны непажаданых рыс характару і пазбавіцца ад іх, змяніць стыль зносін з іншымі людзьмі...

Нагадваю адрас: Мінск, Чырвоная, 2. Гарадскі сексалагічны цэнтр, аддзяленне сямейнага ўрачэбна-псіхалагічнага кансультавання. Тэлефон 36-62-33.

Гутарку вяла
Наталля СТРАЛКОВА.

*З залы суда*

У бюро дзяжурыў П. Сіманаў

# ЦАНА ЖАДАННЯ

## Спроба задаволіць яго каштавала жыцця

*У гэты дом нячасце прыйшло нечакана і хутка, нібы гром сярод яснага дня. Ганна Палікарпаўна Кобель з вёскі Бокшыцы Слуцкага раёна загінула ў 73 гады, у сваёй хаце, ад рукі аднавяскоўца, юнака, які, можна сказаць, варты быў ёй ва ўнукі.*

*Вестка аб яе смерці абляцела Бокшыцы хутка. Аднак дакладна сказаць, што здарылася з кабетай у хаце, ніхто не мог, а, магчыма, і не хацеў, каб не аказацца на ўсякі выпадак у сведках. Усе сыходзіліся на адным — яе забілі. Хто? Называць не хацелі, баючыся не толькі памыліцца, але і першым назваць імя свайго аднавяскоўца Сяргея Дыма.*

...Жанчына ляжала на падлозе з адкінутаю галавою. На ёй была паношаная сукенка, старыя стаптаныя пакаёвыя тапкі, якія, відаць, пранасіла не адзін год. Адну руку яна адкінула ўбок, а другая ляжала на грудзях, прыкладна так, як складваюць іх нябожчыку. Дзверы з сянец у хату і з веранды на двор былі прыадчынены. Праз іх, а таксама разбітае шкло цягнула халаднаватым асеннім вечарам. У такім выглядзе засталі Ганну Палікарпаўну знаёмыя і суседзі, якія прыбеглі яе ратаваць. Але, як аказалася, было позна.

...Ён зайшоў у двор, як да сябе дамоў, упэўнена, быццам гаспадар. Спачатку пастукаў у дзверы, але яны аказаліся на замку, нягледзячы на не такі ўжо і позні час — было прыкладна 19 гадзін. Затым падышоў да акна, пастукаў больш настойліва, прасіў адчыніць. Адкінуўшы фіранку, жанчына ўбачыла маладога калгаснага механізатара, пацікавілася, што ён хоча.

—Што табе трэба? Я ўжо замкнулася...

— Адчыні, пагаварыць хачу наконт выпіць-закусіць, —паспрабаваў ён не вельмі выразнай мовай растлумачыць мэту свайго візіту.

Вырашыла не адчыняць, тым больш, што ён ужо быў "пад мухай", ды і позна ўжо.

— Што датычыць гарэлкі, дык яе ў мяне няма, — пачуў ён у адказ. — Лепш ідзі дадому.

— Што, не дасі? Адчыняй, гавару, дзверы, а то горш будзе...

Жанчына лічыла, што горш будзе, калі іх адчыніць. Тады заваліцца ў хату, цэлы вечар будзе галаву дурыць, паспрабуй такога выправадзіць.

— Ідзі, ідзі дамоў, праспіся, — па-свойму ўгаворвала яна праз акно Сяргея. — Нічога ў мяне няма.

Такі адказ вячэрняга наведвальніка, відаць, не задаволіў, і ён пачаў больш настойліва дамагацца свайго.

— Калі не адчыніш, павыбіваю вокны, разнясу дзверы. Ты мяне будзеш памятаць усё жыццё, — усё больш настойліва патрабаваў ён свайго. А каб пагрозы дзейнічалі больш унушальна, пачаў ужываць такія словы, якія звычайна пішуць толькі на сценах туалетаў і ў іншых падобных месцах. Прысутнасць непаўналетніх дзяцей яго не збянтэжыла. Зрэшты, пра які сорам можна было гаварыць, калі жаданне выпіць на той момант аказалася мацнейшым за ўсё на свеце. Яно на момант засланіла сабой усё, у тым ліку ўласнае сумленне і гонар сям"і. Інакш бы не дзейнічаў ён так жорстка — не біў бы моцна рукамі і нагамі ў дзверы. І калі зразумеў, што пагрозамі нічога не даб"ецца, вырашыў штурмам авалодаць домам Ганны Палікарпаўны. Спачатку пачуўся звон разбітага шкла, затым трэск дзвярэй веранды, калідора — і ён у пакоі, дзе ад страху жанчына не ведала ўжо, што і рабіць. Яна совалася па хаце ў надзеі знайсці хоць якую-небудзь абарону.Але ўсе яе намаганні былі марнымі. Бо сілы аказаліся вельмі няроўныя. Ён уварваўся ў дом, знішчаючы на сваім шляху ўсе перашкоды, адчуваў сябе пакрыўджаным такім неласкавым прыёмам, быццам бы яго тут павінны былі сустракаць з хлебам-соллю.

Як разгортваліся падзеі далей, — дакладна сказаць цяжка. Вядома толькі, што ён накінуўся на ахвяру з кулакамі і, адчуваючы бездапаможнасць жанчыны, наносіў ёй удары адзін за адным. Біў па жываце, твары, грудзях, куды і як папала, біў рукамі і нагамі як мог. Відаць, толькі такім чынам разлічваў кампенсаваць сваю крыўду. Ёсць сведкі, якія чулі, як старая прасіла аб дапамозе Бога і людзей, як маліла пакінуць яе жывой, але ён на гэта не рэагаваў. Ім кіравалі не розум, а злосць, сіла дзікай улады над бездапаможным чалавекам, які не падпарадкаваўся яго волі.

Усходняя легенда гаворыць, што пры прыгатаванні віна Алах змяшаў сто грамаў крыві арла, 300 — барана і 500 — свінні. Адсюль і градацыя ап"янення: пасля першай дозы адчуваеш сябе арлом, пасля другой і трэцяй — адпаведна. Да якой градацыі ап"янення дайшоў ён у той вечар,— сказаць не магу.Але, думаецца, што не да трэцяй. Інакш не змог бы паламаць жанчыне на твары косці, рэбры. Судова-медыцынская экспертыза ўстанавіла таксама разрыў нырак, выявіла шматлікія траўмы груднай клеткі, жывата. Г. П. Кобель было нанесена прыкладна 40 розных удараў. Ахвяра не вытрымала здзек і болі, сканала ў сваёй хаце, так і не дапрасіўшыся літасці. Гарэлка, жаданне выпіць яшчэ ў той момант узялі верх над чалавечым розумам.

На судзе ён выглядаў зусім не тым гора-героем, якім паказаў сябе лістападаўскім вечарам мінулага года. Мне здалося, ён быў падобны на тую самую бездапаможную ахвяру, з якой так жорстка здзекаваўся мінулай восенню. Сваёй віны не адмаўляў, пацвердзіў толькі два нанесеныя ўдары: адзін — рукой і адзін — нагой. А астатніх быццам бы і не было, прынамсі, іх ён не памятаў, хаця пра многія другарадныя дэталі таго злашчаснага вечара расказваў суду падрабязна. Спрабаваў адгаворвацца, шукаючы змякчаючыя віну акалічнасці, а таксама схіліць сведак для дачы лжывых паказанняў. Адзін раз гаварыў, што пацярпеўшая была з сякерай, другі раз, што яе не бачыў, гатоў быў выставіць ахвяру ў самым непрыстойным выглядзе. І хаця пра нябожчыкаў дрэнна не гавораць, але ёй на судзе дасталося нямала. Пра яе гаварылі, якой была і якой хацелі б яе бачыць. Калі б паднялася старая ды паслухала пра ўсё гэта, то, думаецца, не перанесла б сораму. Некаторыя блізкія і родныя падсуднага спрабавалі абвінаваціць яе ў спекуляцыі гарэлкай, ачарніць як толькі можна. Яно і зразумела: сама яна апраўдацца не зможа — гэта, па-першае. А па-другое, на такім фоне перад ахвярай і падсудны будзе выглядаць лепш.Значыць, можна атрымаць менш.

Суд дэталёва разабраў кожны факт, уважліва выслухаў сведак, супаставіў і прааналізаваў усе паказанні ў імя ўстанаўлення ісціны, на падставе якой і быў вынесены прыгавор. Пакаранне С. Дыма ў нейкай ступені магло кампенсаваць грамадству, але толькі не родным і блізкім, нанесены ўрон, незаменную страту чалавечага жыцця. Яна ацэнена 14 гадамі пазбаўлення волі. Але занадта жорсткім паказалася Сяргею вынесенае пакаранне. Маўляў, такі тэрмін не раўназначны чалавечаму жыццю, якое і так набліжалася да свайго завяршэння. І ён выказаў нязгоду з вынесеным прыгаворам, падаў касацыйную скаргу ў Вярхоўны суд рэспублікі. Але гэта не дапамагло — пасля перагляду справы тэрмін пакарання яму пакінулі ранейшы.

Падсуднаму дадзена права на абскарджанне прыгавору, і ён яго скарыстаў. Але і тая жанчына мела права на жыццё, якое абарвалася не без дапамогі гарэлкі. Абарвалася раз і назаўсёды.

А.ЦЫБУЛЬКА.

*Школа прыватных дэтэктываў*

# Урок першы: ФАЛЬШЫВАЯ ВАЛЮТА

Усё часцей у міліцэйскіх зводках і дакументах фігуруе артыкул 84 Крымінальнага кодэкса Беларусі, які карае за падробку або збыт грошай і каштоўных папер.

6-га ліпеня ў адным са сталічных "фірменных" магазінаў была выяўлена 100-даляравая фальшыўка. Праз два дні аналагічная сітуацыя паўтарылася двойчы ў іншых кропках горада. У большасці выпадкаў уладальнікі грашовых знакаў растлумачваюць гэта набыццём або у сваякоў (якія ў сваю чаргу бывалі дзе-небудзь у Польшчы), або зусім невядомых асоб.

Некалькі дзён назад, 21 чэрвеня, у аддзеле Знешэканомбанка на вуліцы Заслаўскай канфіскавана 100-даляравая купюра ЗША, прад'яўленая для абмену фальшыўка. Як растлумачыў уладальнік, гэту купюру ён атрымаў ад сына, які пражывае за мяжой.

Праз дзве з лішнім гадзіны ў памяшканні чыгуначных кас на праспекце Ф.Скарыны зноў канфіскавана фальшыўка (20-даляравая), прад'яўленая пры разліку за білеты работнікам сумеснага прадпрыемства па турызму. Вызначылі, што гэта купюра была атрымана ад аднаго з членаў тургрупы, які ў сваю чаргу купіў яе ў незнаёмца на Камароўскім рынку.

А яшчэ праз тры гадзіны ў аддзеле рэалізацыі тавараў за СКВ ЦУМа выяўлена падробленая нямецкая купюра ў 200 марак.

Відаць, нікому сёння не трэба растлумачваць, што ў такой сітуацыі можа апынуцца кожны з нас. Таму, каб дапамагчы многім пазбегнуць лішніх слёз, а тым больш знаёмства з упамянутым артыкулам КК, мы вырашылі расказаць пра самыя простыя спосабы адрознення фальшывак ад сапраўдных замежных грашовых знакаў. У якасці прыкладу возьмем найбольш распаўсюджаныя даляры ЗША і дойчмарку.

Існуюць два віды падробкі: поўная і частковая. Частковая, як правіла, адлюстроўваецца ў змяненні вартасці. Прасцей кажучы, дамалёўваецца або наклейваецца лішні нуль, два або тры. Выкарыстанне грашовых білетаў з падобнай падробкай характэрна для рынкаў. А распазнаць "ліпу" такога тыпу вельмі проста: трэба ўважліва прыглядзецца, пацёрці, злёгку паскрэбці, у рэшце рэшт.

Поўная падробка падраздзяляецца на два віды: з выкарыстаннем паліграфічнага абсталявання і маляваная. Падробленыя білеты з выкарыстаннем другога спосабу сустракаюцца вельмі рэдка і распазнаюцца даволі лёгка. Іх асноўныя прыкметы – адсутнасць вадзяных знакаў, невыразнасць рэквізітаў, наяўнасць фарбуючых рэчываў, якія расплываюцца, калі на іх трапляе вада.

Што датычыць падробкі з выкарыстаннем паліграфічных сродкаў, то тут без спецыялістаў не абысціся.

На што трэба звярнуць увагу?

Даляры ЗША забяспечаны надзейнай аховай, якая можа быць вызначана толькі пры спецыяльным даследаванні. Аднак, калі правесці пальцам па надпісах (стрэлкі 1 і 2), можна адчуць рэльефнасць (выпукласць) адлюстравання. Гэта самы просты спосаб. Акрамя таго, неабходна праверыць наяўнасць пераліку адлюстраванняў на купюрах, які прапануецца вышэй:

| Вартасць | Пярэдні бок | Адваротны бок |
|---|---|---|
| 1 даляр | Партрэт Вашынгтона | Слова ONE на фоне арнамента або слова ONE меншага памеру, па баках якога два адбіткі вялікай пячаці ЗША |
| 2 даляры | Партрэт Джэферсана | Сцэна абвяшчэння незалежнасці ЗША ў 1776 годзе |
| 5 доляраў | Партрэт Лінкальна | Мемарыял, прысвечаны Лінкальну |
| 10 доляраў | Партрэт Гамільтана | Будынак Казначэйства ЗША |
| 20 доляраў | Партрэт Джэксана | Будынак Белага дома |
| 50 доляраў | Партрэт Гранта | Будынак Капітолія |
| 100 доляраў | Партрэт Франкліна | Будынак Палаца Незалежнасці |

Думаецца, наяўнасць такой невялікай таблічкі ў кішэні чалавека, які мае адносіны да доляраў, значна дапаможа пазбавіцца непатрэбных непрыемнасцяў.

Нямецкія маркі. На гэтай грашовай адзінцы (усіх вартасцей) павінны быць:

– вадзяны знак (партрэт Клары Шуман, стрэлка 1);

– сумяшчальны малюнак (2). Пры аглядзе купюры на прасвет на пярэднім і адваротным баках дакладна супадае і чытаецца літара "Д";

– нітка (3). Маецца серабрыстая перарывістая нітка, у прасветах якой – патаўшчэнне паперы. На нітцы – тэкст у выглядзе вартасці купюры;

– стрэлка 4: на азначаным месцы чытаецца тэкст;

– малюнак з аптычным эфектам (5): калі святло падае наўскос, чытаецца "ДМ";

– стрэлка 6: рэльефны кодавы малюнак для тых, хто не бачыць (адна кропка над двума пункцірамі – 100 марак, дзве кропкі – 200 марак).

Вось вам, паважаныя чытачы, самыя простыя спосабы адрознення сапраўдных грашовых знакаў ад падробленых. Думаецца, яны дапамогуць вам пазбегнуць непрыемнасцей і непаразуменняў.













А.Камароў, начальнік экспертна-крыміналістычнага аддзела УУС Мінгарвыканкома.

С.Рачыла, інспектар прэс-групы УУС Мінгарвыканкома.

## 3, панядзелак

**Беларускае тэлебачанне**

16.30. Навіны.
◆ 16.35. Экран дзіцячага фільма. "Пітэр Пэн". 1-я серыя.
• 17.45. "Сунічны доджджык", "У сінім моры, у белай пене...".
18.00. Дак.фільм "Тайна тайнаў".
19.00. Абласныя навіны /Брэст/.
19.10. Дзяржаўная мова ў сродках масавай інфармацыі. "Круглы стол".
20.25. "Свет у гліне". Кінанарыс.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
◆ 21.25. "Белы веласіпед". /Турцыя/.
22.50. Спартыўны тэлекур'ер.
23.10. НіКа.
23.25. Кікбоксінг.

**I канал. Астанкіна**

17.00. Навіны.
17.20. Класічная армянская паэзія.
18.10. НЭП.
18.40. Дзённік ХХУ летніх Алімпійскіх гульняў.
18.50. Дак.фільм "Сакрэтныя службы" /Францыя/. 4-я серыя "Прамысловы шпіянаж".
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. Алімпійскія гульні. У перапынку /23.00/ – Навіны.

**Канал "Расія"**

7.00. Вестк і.
7.20. Час дзелавых людзей.
7.50. Белая варона.
8.35. Панове-таварышы.
8.50. Бенефіс Н.Касаткінай і В.Васільева.
9.55. Алімпійскія гульні. Дзённік Алімпіяды. Лёгкая атлетыка. Баскетбол /мужчыны/. Валейбол /жанчыны/. Настольны тэніс /жанчыны/.
12.55. Спорт-шоу.
13.00. Весткі.
15.00. Астравы ў акіяне.
15.30. Дзіцячая гадзіна /з урокам нямецкай мовы/.
16.30. Там-там-навіны.
16.45. Т.Ін.Ка.
17.00. "Еўропа–Азія".
17.45. Тварам да Расіі.
18.00. Экран крымінальных паведамленняў.
18.10. Алімпійскія гульні. Бокс. Лёгкая атлетыка. У перапынку – Весткі, Свята кожны дзень.
22.00. Весткі.
22.20. Спорт-шоу.
22.25. Тэлефільм.
22.55. ХХУ летнія Алімпійскія гульні. Лёгкая атлетыка.

## 4, аўторак

**Беларускае тэлебачанне**

◆ 8.45. "Бадзягі Поўначы".
16.30. Навіны.
◆ 16.35. Экран дзіцячага фільма. "Пітэр Пэн". 2-я серыя.
• 17.45. "Школа памочнікаў".
18.00. Дак.фільмы "Вешчая птушка", "Крымскі сезон".
19.00. Абласныя навіны /Віцебск/.
19.10. Рэйтынг.
19.40. Праблемы беспрацоўя ў Мінску. Прамая лінія.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
◆ 21.30. Відэасалон. "Хвароба кахання". /Францыя/.
23.25. НіКа.
23.40. Паядынак за званне чэмпіёна Еўропы сярод прафесіяналаў па кікбоксінгу.

**I канал. Астанкіна**

5.00. Навіны.
5.20. Ранішняя гімнастыка.
5.30. Раніца.
• 7.50. "Бюро знаходак". 2-я серыя.
8.00. Навіны.
◆ 8.20. "Багатыя таксама плачуць".
9.05. Дак.фільм "Паломніцтва".
• 9.35. "Свята непаслухмянасці".
10.25. Сюіта з балета С.Пракоф'ева "Золушка".
11.25. На Алімпійскіх гульнях.
12.55. Канцэрт Дзяржаўнага ансамбля "Руская Поўнач".
13.25. Свет грошай Адама Сміта.
13.55. Блакнот.
14.25. Алімпійскія гульні.
• 16.00. "Залаты волас".
16.15. "Стартынэйджэр".
17.25. Дыялог.
◆ 17.55. "Багатыя таксама плачуць".
18.40. Дзённік Алімпійскіх гульняў.
18.50. Дак.фільм "Сакрэтныя службы". 5-я серыя "КДБ".
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. ХХУ летнія Алімпійскія гульні. У перапынку /23.00/ – Навіны.
◆ 0.25. "Зазірні пад маску". /Фінляндыя/. 1-я серыя.

**Канал "Расія"**

7.00. Весткі.
7.20. Час дзелавых людзей.
7.55. Дакументальная панарама. "Даліна мрояў".
8.55. Вольны час. "Аўто".
9.10. Майстры. "У ракурсе – сямейны партрэт".
9.55. ХХУ летнія Алімпійскія гульні. Дзённік Алімпіяды. Бокс. Бадмінтон.
12.55. Спорт-шоу.
13.00. Весткі.
15.00. Тэлебіржа.
• 15.30. "Ослік", "Нехачуха", "Памочнік Гефеста".
◆ 16.00. Студыя "Рост". "Пятнаццацігадовы капітан".
16.30. Там-там-навіны.
16.45. Т.Ін.Ка.
17.00. "Дом Шарамецевых". Перадача 2-я.
17.30. "Матронін двор".
18.00. Парламенцкі веснік.
18.15. Паэт Іўтах Худода.
18.45. "Белы колер айца Кіма".
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. Алімпійскія гульні. Конны спорт.
21.00. Акно ў Расію.
22.00. Весткі.
22.20. Спорт-шоу.
22.25. Тэлефільм.
22.55. Алімпійскія гульні. Бокс. Баскетбол /мужчыны/.

## 5, серада

**Беларускае тэлебачанне**

8.30. Раніца рэспублікі.
◆ 8.45. "Паром", "Сон". Кароткаметражныя фільмы.
9.45. Дзяржаўная мова ў сродках масавай інфармацыі. "Круглы стол".
• 16.35. "Лапік і Воблака".
17.35. Выступае ансамбль народных інструментаў Вілейскай школы мастацтваў.
18.00. Дак.фільмы.
19.00. Абласныя навіны /Гомель/.
19.10. Тры кіты. Мастацка-публіцыстычная праграма.
20.10. "На рынку ведаў". Да стварэння асацыяцыі недзяржаўных навучальных устаноў у рэспубліцы.
20.40. Калыханка.
◆ 21.30. "Нехта за дзвярыма". /Балгарыя/.
23.00. "Як пачаць уласную справу". Анонс перадачы.
23.05. НіКа.
23.20. Спявае М.Мялешка з в.Міхалкі Свіслацкага раёна.

**I канал. Астанкіна**

5.00. Навіны.
5.20. Ранішняя гімнастыка.
5.30. Раніца.
• 7.50. "Бюро знаходак". 3-я серыя.
8.00. Навіны.
◆ 8.20. "Багатыя таксама плачуць".
• 9.50. "Па шчупаковаму загаду", "Прыгоды Івашкі".
10.40. Дак.фільм "Гісторыя аднаго кахання".
11.00. Навіны /з сурдаперакладам/.
11.25. На ХХУ летніх Алімпійскіх гульнях.
12.55. Спявае Лідзія Наліваўка.
13.10. Тэлемікст.
13.55. Блакнот.
14.00. Навіны /з сурдаперакладам/.
14.25. "Сёння і тады".
14.45. Алімпійскія гульні.
◆ 15.55. "У пошуках капітана Гранта". 5-я серыя "Бен Джойс".
17.00. Навіны.
17.25. "Прадпрымальнік і бюракраты".
◆ 17.55. "Багатыя таксама плачуць".
18.40. Дзённік Алімпійскіх гульняў.
18.50. Дак.фільм "Сакрэтныя службы". 6-я серыя "ЦРУ".
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. Алімпійскія гульні. У перапынку /23.00/ – Навіны.
◆ 0.45. "Зазірні пад маску". 2-я серыя.

**Канал "Расія"**

7.00. Весткі.
7.25. Час дзелавых людзей.
7.55. Тэма з варыяцыямі. "Сустрэча ў Кліне".
8.20. Дыялогі дылетантаў.
8.55. Арт-абстрэл.
9.55. ХХУ летнія Алімпійскія гульні. Дзённік Алімпіяды. Лёгкая атлетыка. Конны спорт.
12.55. Спорт-шоу.
13,00. Весткі.
15.00. Бізнес – новыя імёны.
15.15. Сігнал.
• 15.30. Мульці-пульці. "Цудоўны яблык".
◆ 15.40. "Дзіцячыя мары" /Францыя/. 13-я серыя.
16.00. Хрысціянская праграма. Нагорная пропаведзь. Блажэнныя міратворцы...
16.30. Там-там-навіны.
16.45. Т.Ін.Ка.
17.00. "Далёкі Усход".
17.45. М-трэст.




18.00. Тварам да Расіі.
18.15. Алімпійскія гульні. Лёгкая атлетыка. Конны спорт. Вольная барацьба. У перапынку – Весткі, Свята кожны дзень.
22.00. Весткі.
22.20. Спорт-шоу.
22.25. Алімпійскія гульні. Лёгкая атлетыка.

## 6, чацвер

**Беларускае тэлебачанне**

8.30. Раніца рэспублікі.
◆ 8.45. "Нехта за дзвярыма". /Балгарыя/.
16.25. Праграма перадач.
16.30. Навіны.
• 16.35. "Доктар Айбаліт".
17.45. Фільм-канцэрт/ "Спявае Герард Васільеў".
18.00. Дак. фільм/ "Ахоўваецца дзяржавай".
18.30. Футбол. "Беларусь" /Мінск/ – "Хімік" /Гродна/. У перапынку /19.15/ – Абласныя навіны /Гродна/, Зачытайце маё пісьмо...
20.15. Аб эфектыўнасці работы жывёлаводаў Кобрынскага раёна.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.25. "Як пачаць уласную справу". Анонс перадачы.
21.30. "Крок" прадстаўляе... Студыя "КіТ".
23.00. НіКа.
23.15. Футбол-92. Вынікі тура.

**I канал. Астанкіна**

5.30. Раніца.
• 7.50. "Бюро знаходак". 4-я серыя.
◆ 8.20. "Багатыя таксама плачуць".
• 9.50. "Бусел".
10.00. Алімпійскія гульні.
11.00. Навіны /з сурдаперакладам/.
11.25. На Алімпійскіх гульнях.
12.55. Дак. фільм.
13.10. Тэлемікст.
13.55. Блакнот.
14.00. Навіны /з сурдаперакладам/.
14.25. Алімпійскія гульні.
◆ 15.50. "У пошуках капітана Гранта". 6-я серыя "У палоне ў канібалаў".
17.00. Навіны.
17.20. Канцэрт групы "Сонечны дзень" /Ашгабат/.
17.35. ...Да 16 і старэйшым.
◆ 18.05. "Багатыя таксама плачуць".
18.50. Дзённік Алімпійскіх гульняў.
19.00. Тэма.
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. Алімпійскія гульні. У перапынку /23.00/ – Навіны.
◆ 0.25. "Зазірні пад маску". 3-я серыя.

**Канал "Расія"**

7.00. Весткі.
7.20. Час дзелавых людзей.
7.50. Вольны час. "Увага: здымаю!"
8.05. Расія і свет.
8.35. "Паданне пра казацкага атамана Ермака Цімафеевіча і яго паход у Сібір".
9.10. Майстры. А.Басілашвілі.
9.40. Антракт. Спявае Ларыса Трухіна.
9.55. Алімпійскія гульні. Дзённік Алімпіяды. Бейсбол.
12.55. Спорт-шоу.
13.00. Весткі.
15.00. Тэлебіржа.
15.30. Пілігрым.
16.15. Праграма "Ключ".
16.30. Там-там-навіны.
16.45. Т.Ін.Ка.
17.00. Апазіцыя.
17.45. Парламенцкі веснік.
18.00. Алімпійскія гульні. Бокс.
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. Рэпарцёр.
◆ 19.45. "Санта-Барбара".
20.35. Алімпійскія гульні. Бокс. Вольная барацьба. Мастацкая гімнастыка.
22.00. Весткі.
22.20. Спорт-шоу.
22.25. Алімпійскія гульні. Валейбол /жанчыны/. Баскетбол /мужчыны/.

## 7, пятніца

**Беларускае тэлебачанне**

◆ 8.45. Кінанастальгія. "Жыве такі хлопец".
16.30. Навіны.
• 16.35. "Футрачка для хмары", "Серабрысты званочак", "У краіне вясёлай дзяцінства".
17.20. Знаёмства з вучаніцай Беларускага ліцэя мастацтваў юнай скрыпачкай Вольгай Сідаровіч.
18.00. Дак. фільмы.
19.00. Абласныя навіны /Магілёў/.
19.10. Палітычны калейдаскоп. Што адбываецца ў нашым шматпартыйным доме?
19.40. "Дваццаць дзён радасці". Адпачынак у Балгарыі дзяцей, што пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі.
20.10. "Памяці сябра". Дыктар Беларускага тэлебачання Уладзімір Яркоў.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
◆ 21.25. Кінанастальгія. "Жыве такі хлопец".
23.05. НіКа.
23.20. "Басовішча-92". Фестываль музыкі маладой Беларусі на Беласточчыне.

**I канал. Астанкіна**

5.30. Раніца.
• 7.50. "Дзядулева дудачка".
8.00. Навіны.
◆ 8.20. "Багатыя таксама плачуць".
• 9.05. "Вялікі сакрэт для маленькай кампаніі", "Ох і ах".
9.30. "Аб чым звоняць званы" /Перм/.
10.00. Алімпійскія гульні.
11.00. Навіны (з сурдаперакладам/.
11.25. На Алімпійскіх гульнях.
12.55. "Цыркачаняты". Дак. фільм.
13.15. Брыдж.
13.40. Бізнес-клас.
13.55. Блакнот.
14.00. Навіны /з сурдаперакладам/.
14.25. Алімпійскія гульні.
◆ 15.45. "У пошуках капітана Гранта". 7-я серыя "Рабінзон Акіяніі".
17.00. Навіны.
17.25. Чалавек і закон.
◆ 17.55. "Прыгоды чорнага Прыгажуна"/Англія/. 4-я серыя.
18.20. ТБ-"Нява". "Хто з намі?"
18.40. Дзённік Алімпійскіх гульняў.
18.50. "Поле цудаў".
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. Алімпійскія гульні. У перапынку /23.00/ – Навіны.
0.30. Зоркі бальнага танца Расіі і ЗША.

**Канал "Расія"**

7.00. Весткі.
7.25. Час дзелавых людзей.
7.55. Вольны час. "Белбудсервіс".
8.10. "Мінула 20 гадоў..." Тэлефільм.
8.40. М-трэст.
• 8.55. Мульці-пульці. "Каменныя музыкі".
◆ 9.05. "Санта-Барбара".
9.55. Алімпійскія гульні. Дзённік Алімпіяды. Лёгкая атлетыка. Баскетбол /мужчыны/.
12.55. Спорт-шоу.
13.00. Весткі.
13.20. Адкрыццё Рэспубліканскага цэнтра рускага фальклору.
13.40. Там-там-навіны.
13.55. Алімпійскія гульні. Бокс. Тэніс.
16.55. Т.Ін.Ка.
17.10. Алімпійскія гульні. Лёгкая атлетыка. У перапынку – Весткі, Свята кожны дзень.
22.00. Весткі.
22.20. Спорт-шоу.
22.25. Экран крымінальных паведамленняў.
22.35. Алімпійскія гульні. Лёгкая атлетыка. Валейбол /жанчыны/.

## 8, субота

**Беларускае тэлебачанне**

8.30. Раніца рэспублікі.
◆ 8.45. "Самыя хуткія ў свеце".
9.50. Паказвае Гомель. "Рэгіён". Інфармацыйна-аналітычная праграма.
11.00. Тыдзень планеты. Міжнародны агляд.
11.15. Ансамбль народнай творчасці "Кола".
• 11.55. Для дзяцей. "Суперкніга". 14-я серыя.
◆ 12.30. "Людзі і дэльфіны". Фільмы 1-ы і 2-гі.
14.55. Сівой даўніны покліч. "Полацкая пячатка".
• 15.10. "Бюро знаходак".
15.45. "Майстрыхі дымкаўскай цацкі". Дак. фільм.
16.00. Дэбюты. Саюз кампазітараў Беларусі прадстаўляе маладых кампазітараў А.Хадоску, З.Яўтуховіча, А. Шушкевіч.
◆ 17.00. "Пакроўскія вароты". 1-я і 2-я серыі.
19.20. "Мы гэта можам". Сустрэча артыстаў беларускай эстрады з дзецьмі-інвалідамі.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
◆ 21.30. "Сінема" прадстаўляе: "Размова" /ЗША/.
23.30. НіКа.

**I канал. Астанкіна**

6.30. Суботняя раніца дзелавога чалавека.
7.30. На Алімпійскіх гульнях.
8.15. "Музычныя інструменты і іх гісторыя" /Германія/. 9-я серыя "Кларнет".
8.45. Як дабіцца поспеху.
9.00. Радыё "Труба".
9.30. "Эльдарада".
10.00. Свет у вольны час.
10.40. Авіякасмічны салон.
10.55. Алімпійскія гульні.
13.45. "Крэшчэнда". Музычная праграма.
14.00. Навіны /з сурдаперакладам/.
◆ 14.20. Прэм'ера тэлевізійнага мастацка-публіцыстычнага фільма "Чалавек або д'ябал?" Фільм 3-ці.
15.10. Дырыжор У.Федасееў.
◆ 15.30. "Зорны хлопчык".
17.00. Дак. фільм "Нашчадкі гонару".
• 17.30. "Пчала Мая".
17.55. "Дарагая Таццяна Іванаўна..." Памяці актрысы.
18.45. "Статуэтка Фідзія". З крымінальнага серыяла "Паляўнічыя на шэдэўры" /Італія/.
19.45. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. Алімпійскія гульні. У перапынку /23.00/ – Навіны.
◆ 1.00. "Адзіны мужчына". 1-я серыя.

**Канал "Расія"**

7.00. Весткі.
7.20. Дакументальная панарама. "Гарадскія эцюды".
7.40. Тэма з варыяцыямі. Ансамбль салістаў "Паўночная карона".
8.05. Калі вам за...
8.35. Пілігрым.
9.20. Рэтра. Т.Міянсарава.
9.50. Спорт-шоу.
9.55. Алімпійскія гульні. Дзённік Алімпіяды. Хакей на траве. Тэніс. У перапынку – Весткі.
14.00. "У пошуках Соф'і". Частка 1-я.
14.45. Тыдзень тэлевізійнага кіно ЗША. Пасляслоўе.
15.00. Алімпійскія гульні. Тэніс. Гандбол. Мастацкая гімнастыка.
17.55. Парламенцкі веснік.
18.10. Студыя "Нотабене".
19.00. Весткі.
19.20. Свята кожны дзень.
19.30. Алімпійскія гульні. Мастацкая гімнастыка.
20.40. "Выбранае". М.Жванецкі.
21.50. Спорт-шоу.
22.00. Весткі.
22.20. Праграма "А".
22.50. Алімпійскія гульні. Баскетбол /мужчыны/.

## 9, нядзеля

**Беларускае тэлебачанне**

8.30. Раніца рэспублікі.
8.45. Урокі здароўя. Аб кантролі і самакантролі за станам здароўя.
9.10. "Збан ля крыніцы". Фільм-канцэрт.
◆ 9.45. "Медзведзяня". /Польшча/.
11.40. Асілак. Тэлевізійны спартыўны клуб. Прамая лінія.
12.30. Для дзяцей. "У заапарку, у звяроў".
13.00. НіКа. Нядзельны дадатак.
13.45. Музычная конкурсная праграма з удзелам юных талентаў.
◆ 14.30. "Людзі і дэльфіны". Фільм 3-ці.
16.35. "Жыццё з песняй". Ансамбль Ганны Лой з вёскі Семурадцы Жыткавіцкага раёна.
◆ 17.05. "Марыя, Мірабела ў Транзісторыі". Маст. фільм з субцітрамі.
◆ 18.15. "У крузе задыяка", "Пажар у флігелі". Кароткаметражныя фільмы.
• 18.55. "Ляніаая сукенка".
19.05. Запрашаем на вячоркі. "Сватанне". Фальклорны калектыў "Раніца" народнага прадпрыемства "Альберцін" г. Слоніма.
20.00. Панарама.
• 20.25. Мультфільмы для дарослых "Цудоўны Гоша". Фільмы 6-ы і 7-ы.
20.40. Калыханка.
21.00. "Каскад". Кантакт. Інфармацыя. Рэклама.
◆ 21.15. "Сінема" прадстаўляе: "Маскі" /Францыя/.

**I канал. Астанкіна**

6.00. Гадзіна сілы духу.
7.00. Алімпійскія гульні. У перапынку – тыраж "Спортлато".
9.00. Раным-рана.
9.35. Магчыма ўсё.
10.05. Ранішняя зорка.
10.55. Пад знакам "пі".
11.35. IX Міжнародны фестываль тэлепраграм народнай творчасці "Вясёлка". Музычная праграма /Афганістан/.
12.00. Алімпійскія гульні.
14.00. Навіны /з сурдаперакладам/.
14.20. Новае пакаленне выбірае "Дэтэктыў-ленд".
15.10. Клуб падарожнікаў.
16.00. Дж. Гершвін. Сімфанічная карціна "Поргі і Бэс".
16.20. Панарама.
17.00. Алімпійскія гульні.
18.00. Навіны.
• 18.15. Уолт Дысней прадстаўляе...
19.05. Знаёмцеся – кінапрадзюсеры.
◆ 19.20. "Капальні цара Саламона" /ЗША/.
21.00. Вынікі.
21.45. Спявае Раксана Бабаян.
22.35. Навіны.
22.55. Урачыстая цырымонія закрыцця XXV летніх Алімпійскіх гульняў.
◆ 0.45. "Адзіны мужчына". 2-я серыя.

**Канал "Расія"**

7.00. Весткі.
7.25. Вольны час.
7.40. Фальклор. Невядомыя культуры.
• 8.25. "Суперкніга". 24-я серыя.
8.55. "Навальніца 1812 года". Фільм 1-ы.
9.25. Аты-баты...
9.55. Алімпійскія гульні. Дзённік Алімпіяды. Бокс. У перапынку – Весткі, Спорт-шоу.
14.05. "У пошуках Соф'і". Частка 2-я.
14.50. "Крэслаадступнік Болдыраў, або Размова з дзяржінспектарам аб самавольстве ўлады".
15.15. "Капітан Каталкін і іншыя". Шоу Аляксандра Буйнова.
16.10. Непазнаны Сусвет.
◆ 16.55. "Незвычайная выстаўка".
18.25. Алімпійскія гульні. Воднае пола. Марафон /мужчыны/. Конны спорт. У перапынку – Весткі, Свята кожны дзень.
22.00. Весткі.
22.20. Спорт-шоу.
22.25. "Баль. У час або своечасова".
• 22.45. "Адчыненае акно". Мультфільм для дарослых.
22.55. Закрыццё XXV летніх Алімпійскіх гульняў.

---

*Каб зэканоміць ваш час:*
◆ *мастацкія*
• *мультыплікацыйныя фільмы*

# ДАЧКА КРЫЛАТЫХ ВАНДРОЎНІКАЎ



Блакітна-зялёная планета паволі авярталася далёка ўнізе, велічная і тужлівая ў гэтым сваім авяртанні. Гледзячы на яе, Ліу успамінала такое далёкае мінулае...

* * *

...Яркае веснавое сонца стукалася ў запыленыя, напалову прыхаваныя фіранкамі вокны кабінета геаграфіі. Геаграфіца моршчылася, бо промні рабілі яе тлусты і бліскучы носік яшчэ больш тлустым і бліскучым.

Гэтакім чынам, думкі геаграфіцы блукалі вакол яе носа, а вусны па звычцы прамаўлялі:

— Тушкевіч, падыміся, брыдоты кавалак! Мышкіна, урок пачаўся!

Мышкіна, што сядзела на самай апошняй парце, не рэагавала. Светлавалосая галава яе была нізка схіленая, ручка шпарка і лёгка бегала па паперы.

Вучні захіхікалі. Настаўніца падышла да Мышкінай. Поўныя грудзі і жывот, абцягнутыя сукенкай, калыхаліся пры хадзьбе.

— Мышкіна, устань!

Раз'юшаная геаграфіца пракрычала гэтыя словы ў самае вуха Мышкінай. Дзяўчынка паднялася, нібы не заўважыўшы жанчыну. Вочы, падобныя на марозныя льдзінкі, глядзелі паўз настаўніцу і былі ў іх спакой і застарэлы смутак.

Шчакаты, тоўсты хлопец, што сядзеў паперадзе, павярнуўся і зірнуў на малюнкі, якія ляжалі на парце Мышкінай. Дзіўныя малюнкі! Лёгкія, паветраныя гарады і ў зеленавата-бірузовым небе над імі — прыгожыя людзі, лунаючыя на празрыстых крылах.

Свінцова-шэрае, набрынялае цяжкай вільгаццю неба і на гэтым панылым фоне — мокрыя галіны мёртвых дрэў, якія цягнуцца да поўнага залатога шарыка Сонца.

Мёртвая, жоўтая пустыня, шэрае ад спякоты неба і адзінокая кветка з барвовымі пялёсткамі.

Вялікі стэп, хвалямі гайдаецца высокая трава; малінавы круг Сонца завіс над жоўта-карычневымі ўступамі скалістых гор. На ўступах — меднастволыя сосны з плоскімі сіне-зялёнымі кронамі. І чорная выява адзінокага вершніка на самым высокім...

* * *

...Цвілі каштаны і бэз на маленькай вулачцы. Лёгкай, бы на крылах, ляцела, хадой крочыла Наташа Мышкіна. Крочыла лёгка і хутка, нібы скінула з сябе цяжкае носіва. У светлых, пушыстых валасах біўся ветрык.

Толькі што прайшоў дождж, і празрыстыя кроплі блішчэлі на яшчэ не пакрытым пылам лісці і кветках. Наташа любіла гэтую пару. Яна любіла прыгажосць. Наташы хацелася ўвабраць яе ў сябе, сціснуць у маленькі камячок і схаваць. Маленькі і цёплы камячок Наташы было б лёгка абараніць ад бруду і грубасці.

З-за павароту пачуўся голас:

— Паглядзі, наша ненармальная Мыш ідзе!

Дарогу Наташы перагарадзілі Тушкевіч і Таўсташчокі. Тушкевіч размахнуўся і з усяе моцы стукнуў "ненармальную Мыш". Аднак боль не адбіўся на твары дзяўчынкі. А вочы-ільдзінкі ўпарта не заўважалі крыўдзіцеляў.

Таўсташчокі ўпэўнена кінуў:

— Я ж табе кажу, што Мыш болю не адчувае!

* * *

...Кроплі вады дрыжэлі на аконным шкле. Наташа ўзіралася ў іх, не звяртаючы ўвагі на голас бацькі, што даносіўся з суседняга пакоя.

— Што ты сабе думаеш! За ўрокі яшчэ і не бралася, у прыбіральшчыцы хіба пойдзеш, га?

"Цікава, каля магазіна тратуар заліло? Або не заліло?", — раздумвала Наташа. А бацька ўсё крычаў і крычаў.

— На каго ты падобная? Усё кніжкі пачытваеш, так? Жыццё яны табе не заменяць!

Скрозь шумлівыя струмені вады Наташа ўбачыла адзін з хрустальных гарадоў. Лёгкія і паветраныя будынкі мігцелі, нібы вясёлка. Горад іскрыўся рознакаляровымі блікамі, пераліваўся ўсімі колерамі, ззяў, яркія агеньчыкі гарэлі на вежах, што сягалі ўгару. Промні ізумруднага і ружовага сонцаў залівалі яго.

Менск пад свежым травеньскім дажджом таксама пахарашэў. Вугал белага дома на фоне цёмна-сіняй хмары выглядаў так прыгожа, што бледныя вусны Наташы расплыліся ва ўсмешцы. Ціха шапацела мокрае лісце дрэў.

— Не магу зразумець, чаму ты так пасміхаешся, — сказаў бацька.

— Вугал таго дома вельмі прыгожы, так, тата?

— А божа ж мой!

* * *

— Ідзі, схадзі па хлеб, — папрасіла маці, разглядваючы яркі часопіс.

Наташа пайшла. І не вярнулася. Шукалі, плакалі, але не знайшлі.

* * *

— Яна была такой прыгожай дзяўчынкай, — усхліпнула маці, ставячы на пліту чайнік.

— Бедная мая дачушка, — прашаптаў бацька, гледзячы на мокрую начную вуліцу з жоўтымі плямамі ліхтароў і вільготным, чорным асфальтам.

Бы ветразі, надзьмуў вецер фіранкі. Акно зазвінела чыстым, ціхім звонам. На падаконні стаяла Наташа. Наташа, не падобная на сябе. Вочы сталі яшчэ больш вялікімі, у самай іх глыбіні блукалі залатыя іскрынкі. Рысы твару, які стаўся раптам незвычайна прыгожым, быццам застылі, і толькі вочы ззялі таемна і дзіўна. Светлыя валасы хвалямі ападалі на плечы і ў іх таксама таньчылі рознакаляровыя іскрынкі.

Гэта была ўжо не Наташа, не! Яна была дачкою вечнага зорнага святла і звалася — Ліу. Цяпер яна жыла цудоўным і прыгожым жыццём свайго племені. Племені, народжанага ў нясцерпнай тэмпературы зверхновых зорак, у промнях далёкіх сонцаў. Гэта дзеці далёкага космасу, лёгкія і хуткія, іх целы, што могуць набываць любое аблічча, сатканыя з энергіі. Ім не патрэбная атмасфера. Яны імчаць у Сусвеце, купаюцца ў безданях чужых сонцаў і таньчаць у сонечных віхурах. І зорным святлом блішчаць іх вочы.

* * *

Наташа прамовіла дзіўным, звінячым галасам:

— Я лічыла вас сваімі бацькамі, але я памылялася. Я — дачка Крылатых Вандроўнікаў. Вы, людзі, узялі свой пачатак шмат гадоў таму ад Абяскрыленых Вандроўнікаў. Вы нараджаецеся крылатымі, але адразу ж губляеце крылы. Тых, хто не губляе, вы проста не разумееце. Таму я пакідаю вас.

За спінай у дзяўчынкі выраслі срэбныя крылы. І, лёгка адштурхнуўшыся ад падаконня, яна ўзляцела. Космас паклікаў да сябе сваю маленькую дачку Ліу, і яна ішла да яго.

* * *

На кухні, ля разбітага акна, сядзелі мужчына і жанчына. Яны не маглі ўзляцець — іх крылы даўно адмерлі...

**Юлія ДАШКЕВІЧ.**

## *Кінаафіша*

### "ФЕАФАНІЯ, ЯКАЯ МАЛЮЕ СМЕРЦЬ"

Новую каляровую мастацкую кінастужку з такой назвай стварылі сумесна кінематаграфісты кінастудыі "Вавілон", Адэскай кінастудыі і кінакампаніі "Кадзіяк" (ЗША). Аўтары сцэнарыя Уладзімір Аленнікаў, Юрый Пяроў і Кэтрын Марцін, рэжысёр – Уладзімір Аленнікаў.

Гэта паэтычны трылер з жыцця сярэдневяковай Русі, у якім спалучаюцца элементы філасофскай прытчы, дэтэктыва, любоўнай драмы і фільма жахаў. Дзеянне фільма адбываецца ў XII стагоддзі, у крывавую эпоху праціборства позняга язычніцтва і ранняга хрысціянства. У аснове сюжэта – канфлікт дзвюх неардынарных, магутных асоб: свяшчэнніка Агафангела і старасты вёскі язычніка Георгія. Абодва кахаюць адну жанчыну – Феафанію, вядзьмарку, знахарку, мастачку, якая валодае містычнай уладай над жывой і мёртвай прыродай. У вёсцы Феафанію пабойваюцца і лічаць ведзьмай...

У гэтай захапляючай карціне зняўся славуты амерыканскі акцёр Джордж Сігал, які выдатна выканаў ролю старасты Георгія. У астатніх ролях заняты Тамара Тана, Мікалай Качагараў, Віктар Рэпнікаў, Мікалай Дабрынін, Жанна Такарская і іншыя.

### "ВОБЛАКА-РАЙ"

Гэта новая каляровая мастацкая кінастужка створана майстрамі кінастудыі "12А" пры ўдзеле "Масфільма". Яе паставіў рэжысёр Мікалай Досталь па сцэнарыю Георгія Нікалаева.

Сумнае жыццё ў правінцыяльным гарадку. Ад суму прыйшла на розум Колі – мясцовага дзівака – недарэчная думка: дай, думае, скажу ўсім, што збіраюся ехаць працаваць на Ціхі акіян. Фантазія гэта стала сапраўднай падзеяй для жыхароў гарадка. Колю ўзнеслі да звання героя, арганізавалі грандыёзныя праводзіны. А калі Колю амаль сілком пачалі запіхваць у аўтобус, зразумеў герой, што зусім не хочацца яму нікуды ад'язджаць з гэтых мясцін, адчуўшы, якія дарагія для яго сябры і суседзі...

Вельмі добры ў галоўнай ролі студэнт цыркавога вучылішча Андрэй Жыгалаў, якога гледачы, напэўна, запомнілі па карціне Мікіты Хубава "Цела", дзе пачынаючы кінаакцёр сыграў праставатага жаніха вяснушкаватай вясковай жанчыны-вамп. У "Воблацы..." тая ж Ала Клюка зноў у пары з Жыгалавым, але адчувае да яго вельмі моцныя пачуцці – з нагоды расставання. Цудоўна граюць Ірына Разанава, Леў Барысаў і многія іншыя выканаўцы роляў.

### "ДЗІНА"

Вытворчасць кінастудыі "КінКом". Аўтар сцэнарыя і рэжысёр-пастаноўшчык – Фёдар Пятрухін.

Карціну можна аднесці да жанру меладрамы з элементамі фільма жахаў. Дзеянне яе разгортваецца пад час грамадзянскай вайны ў Расіі.

...Дачка павятовага ўрача 19-гадовая Дзіна едзе ў вёску – падалей ад трывожных падзей. Яе бацька знік пры таямнічых акалічнасцях (паводле версіі, яго заманілі ў сваю пастку ваўкалакі). Нечакана ў дзяўчыны праяўляюцца незвычайныя здольнасці; ёй адкрываюцца тайны чужых лёсаў. У сне да яе прыходзіць дух яе няшчаснага бацькі і расказвае пра тое, што павінна адбыцца з кім-небудзь з аднавяскоўцаў, каго варта папярэдзіць. Хутка яе пачынаюць лічыць вядзьмаркай...

Гледача чакаюць самыя неверагодныя сцэны: мярцвяк, які расплюшчвае вока, крывасмокі, якія чакаюць чарговую ахвяру, прывід, які страшна карае тых, хто спрабуе пакваліцца на гонар ягонай пакінутай у зямным жыцці дачкі...

У карціне здымаліся Таццяна Скараходава, Інакенцій Смактуноўскі, Мая Булгакава, Алег Харытонаў, Арыстарх Ліванаў, Дар'я Фекленка і іншыя.

### "МАСКА ЧЫРВОНАЙ СМЕРЦІ"

Каляровую мастацкую кінастужку з такой назвай прапануюць увазе гледачоў кінематаграфісты ЗША. Сцэнарый яе напісаў М.Мурай, рэжысёр-пастаноўшчык – А.Біркіншоу.

У аснову карціны пакладзены апавяданне Эдгара По. Як лёгка здагадацца, гэта фільм жахаў у класічным сваім выглядзе, і, прызнаем, для яго прагляду трэба мець немалую сілу духу.

...У старажытным замку ідзе маскарад. Раптам у зале з'яўляецца адзін з герояў Людвіг. Ён у масцы чырвонай смерці. Усталёўваецца цішыня. Людвіг злавесна вымаўляе, звяртаючыся да ўдзельнікаў маскарада: "Вечар прысвячаецца майстэрству кахання і падману". Потым ён знікае ў клубах дыму...

Цёмныя сілы пануюць у замку, у якім адбываюцца жудасныя забойствы...

Галоўныя ролі ў карціне выконваюць С.Сталонэ, Б.Вакаро, Г.Пом, М.Макбрайт і іншыя акцёры.

Дзяжурны рэдактар А.ПАЛЫНСКІ

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК СМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.



Зак № 31

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12